● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

12 верасня 1996 г. чацвер, № 225 (23028)



# ЗВЯЗДА

*РОЗГАЛАС*

## КАСЦЮКОВІЦКІ ЦЭМЕНТ БУДЗЕ КАНКУРЭНТАЗДОЛЬНЫМ

**Афіцыйнае адкрыццё Беларускага цэментнага завода адбылося 11 верасня ў Касцюковічах. У ім прыняў удзел Прэзідэнт рэспублікі Аляксандр Лукашэнка.**

Будаўніцтва прадпрыемства апошнім часам знаходзілася пад кантролем кіраўніка дзяржавы. Ад пачатку яго ўзвядзення да пуску першай лініі прайшло каля дзесяці гадоў. І на заканчэнне будаўніцтва з бюджэту рэспублікі было выдзелена 67 мільярдаў рублёў.

Першая лінія будзе даваць у год 1 мільён 200 тысяч тон цэменту. Паводле слоў міністра архітэктуры і будаўніцтва Генадзя Навіцкага, з уводам гэтага прадпрыемства можа істотна змяніцца сітуацыя на ўнутраным рынку будаўнічых матэрыялаў.

Для патрэб жа Беларусі неабходна штогод каля пяці мільёнаў тон цэменту. І да гэтага часу рэспубліка вымушана была каля паловы яго імпартаваць. Цяпер ёсць магчымасць выйсці з гэтым таварам і на знешні рынак. Да таго ж дырэктар завода Міхаіл Васіленка лічыць, што, дзякуючы асваенню найноўшых тэхналогій, касцюковіцкі цэмент можа быць канкурэнтаздольным.

На прадпрыемства запрошаны спецыялісты з Узбекістана, Малдовы, Расіі і Украіны. Ёсць яшчэ трыста вакансій.

Агледзеўшы прадпрыемства, Прэзідэнт рэспублікі правёў невялікую нараду з адміністрацыяй завода і прадстаўнікамі мясцовых улад. Ён адзначыў важнасць гэтага аб'екта для рэгіёна, які пацярпеў ад аварыі на Чарнобыльскай атамнай станцыі, заўважыўшы пры гэтым, што чарнобыльскае пытанне -- напалову палітычная праблема.

**Уладзіслаў ПЛАТУН, БЕЛТА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ДЫРЭКТАР ШПАЛЕРНАЙ ФАБРЫКІ ПАД АРЫШТАМ

**У чарговы раз наша газета вяртаецца да справы, якая звязана з апошняй аперацыяй, праведзенай аддзелам па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю Гомельскага УУС, па прычыне таго, што тут з'явілася новая інфармацыя.**

Коратка нагадаем, што дырэктара аднаго з буйных гомельскіх прадпрыемстваў заспелі супрацоўнікі міліцыі ў той момант, калі ён атрымліваў з рук расійскага прадпрымальніка 3 тысячы долараў ЗША. На той момант кіраўнік не быў узяты пад варту. Як удалося высветліць, на сённяшні дзень у Гомелі назіраюцца пэўныя зрухі ў справе па факту атрымання гэтых грошай. Падзеі разгарнуліся на гомельскай шпалернай фабрыцы, дырэктар якой стаў галоўнай дзеючай асобай непрыемнай гісторыі. Другой дзеючай асобай аказаўся прадстаўнік будаўнічай фірмы «Імпэкс».

«Па душу» апошняга, дарэчы, у Расію і выехала следчая група з Беларусі, якая павінна была заняцца праверкай дакументацыі фірмы і допытам прадпрымальніка.

Паводле нашай інфармацыі, следчая група выявіла пэўныя факты, якія нейкім чынам закранаюць інтарэсы кіраўніка шпалернай фабрыкі. Пасля таго, як прыйшлі дадзеныя з Расіі, дырэктар быў узяты пад варту. Ён падазраецца ў атрыманні хабару. Праўда, афіцыйнае абвінавачанне пакуль не прад'яўлена.

Следства працягваецца.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**



**Каб ніколі, ніколі не стаяць на прыколе, каб не ведаць маўклівай вады...**
**Фота Уладзіміра ФЯДОТАВА.**

## КІРАЎНІКІ ОРГАНАЎ БЯСПЕКІ І СПЕЦСЛУЖБАЎ СНД ПРАВОДЗЯЦЬ НАРАДУ НА БЕЛАРУСІ

МАСКВА. 11 верасня. Інтэрфакс. У сераду ў беларускім мястэчку Віскулі пачалася нарада кіраўнікоў органаў бяспекі і спецыяльных службаў краін — удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Аб гэтым паведамілі ў Цэнтры грамадскіх сувязей ФСБ Расіі.

Як адзначылі ў ЦГС, нарада прысвечана «пытанням удасканалення шматбаковага супрацоўніцтва ў галіне барацьбы з арганізаванай злачыннасцю, процідзеяння незаконнаму абарачэнню наркотыкаў і кантрабандзе зброі».

Гэта ўжо чацвёртая сустрэча прадстаўнікоў спецслужбаў краін СНД на такім узроўні. Першая адбылася ў Маскве ў сакавіку 1995 года, другая — праз два месяцы ў Тбілісі. Там былі падпісаны Дагавор аб супрацоўніцтве ў барацьбе з арганізаванай злачыннасцю. На апошняй (у красавіку 1996 года ў Душанбе) быў абумоўлены тэрмін правядзення цяперашняй нарады.

У ЦГС паведамілі, што ў Віскулях мяркуецца падпісаць Пратакол аб супрацоўніцтве ў галіне аператыўнага вышуку.

За апошні час спецслужбы краін Садружнасці правялі не адну паспяховую аперацыю, адзначылі ў ЦГС. Так, расійскім і беларускім контрразведчыкам удалося спыніць некалькі спроб буйной кантрабанды стратэгічнай сыравіны па так званаму «Калінінградскаму транзіту», а Камітэт нацыянальнай бяспекі Казахстана сумесна з ФСБ Расіі перакрылі шэраг каналаў незаконнага ўвозу ў РФ буйных партый наркотыкаў.

На думку прадстаўнікоў ЦГС ФСБ, сярод найбольш важных вынікаў такога ўзаемадзеяння трэба адзначыць фактычнае стварэнне ў першых чыслах верасня Аб'яднанага банка даных па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю, які на базе ФСБ Расіі аб'яднаў інфармацыйныя сістэмы спецслужбаў краін Садружнасці.

## У ДОМЕ ЎРАДА ШУКАЛІ БОМБУ

10 верасня у 20.10 ад аховы будынка Дома ўрада паступіў сігнал, што прыбіральшчыца знайшла незвычайную запіску, якая ляжала ў цэлафане пад каменьчыкам ля сцен будынка. У запісцы было напісана, што ў Доме ўрада закладзена бомба, невялікая, але магутная. Падпісана яна была «псеўданімам» — «Чорны кот».

На месца здарэння прыбыла група сапёраў на чале з начальнікам Галоўнага ўпраўлення аховы адміністрацыйных будынкаў М. Цесацком, які, як вядома, кіраваў пошукамі бомбы ў Вярхоўным Савеце і 11—12 красавіка мінулага года.

На месца працы прыбыў таксама начальнік Сакратарыята ВС Іосіф Сідаровіч.

Агляд памяшканняў праводзіўся да 23 гадзін. Нічога не было знойдзена.

Як паведамілі І. Сідаровіч, кабінеты кіраўніцтва і супрацоўнікаў Вярхоўнага Савета не ўскрываліся. Раніцай 11 верасня доступ у Дом урада быў звычайны.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*НАЎЗДАГОН*

## САПЁРАМ У ШЫШЧЫЦАХ РАБОТЫ ХАПІЛА

Працягваюцца работы па расчыстцы ад снарадаў тэрыторыі паблізу Шышчыц. Пад рэдкі «акампанемент» снарадаў, якія ўсё яшчэ ўзрываюцца, салдаты і афіцэры прачэсваюць лясныя масівы, падрыхтоўваючы на месцы або звозяць з палёў небяспечную «начынку», якой пасля моцных выбухаў на артылерыйскай базе тут багата. Вяскоўцы пацыху пачынаюць рабіць «касметычны» рамонт двух жылых будынкаў, адкуль у суботу спешна выехалі сем'і.

На месцы здарэння сёння працуе спецыяльная камісія па ліквідацыі яго наступстваў і высвятленню прычыны. Да эпіцэнтра выбуху, дарэчы, ніхто пакуль набліжацца на небяспечную адлегласць не рашаецца. Што датычыцца вынікаў расследавання «шышчыцкай справы», то ў бліжэйшыя дні, бясспрэчна, іх чакаць не прыходзіцца.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## У ПАДТРЫМКУ РЭФЕРЭНДУМУ

На фізічным факультэце Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта створана рабочая група «Прэзідэнцкі рэферэндум», у састаў якой увайшлі выкладчыкі і супрацоўнікі кафедры фізікі. Яна будзе дзейнічаць у падтрымку ініцыятывы Аляксандра Лукашэнкі правесці 7 лістапада рэспубліканскі рэферэндум для прыняцця змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Беларусі, паведамілі кіраўнік групы старшы выкладчык кафедры фізікі універсітэта І.Патапаў. Рашэнне Вярхоўнага Савета назначыць іншую дату рэферэндуму і вынесці на яго дадатковыя пытанні названа ў паведамленні антыканстытуцыйным і антыпрэзідэнцкім і павінна быць адхілена.

**БЕЛТА.**

## РАСПРАЦОЎШЧЫКІ НОВАЙ РЭДАКЦЫІ КАНСТЫТУЦЫІ ЧАКАЮЦЬ ПРАПАНОЎ І ЗАЎВАГ

У сувязі з тым, што па даручэнню Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі распрацаваны і ўжо апублікаваны праект новай рэдакцыі Канстытуцыі, які пасля абмеркавання будзе вынесены на ўсенародны рэферэндум 7 лістапада, прэс-служба Прэзідэнта паведаміла, што ўсе заўвагі і прапановы па праекту асноўнага закона трэба накіроўваць па адрасу:

220016, Мінск, вул.К.Маркса, 38, п. 130, Камісія па дапрацоўцы праекта новай рэдакцыі Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

**БЕЛТА.**

## ПАДПІСКА ПРАДОЎЖАНА. АДЛІК ПАЙШОЎ

**У жадаючых падпісацца на «Звязду» і іншыя перыядычныя выданні яшчэ ёсць шанц — Міністэрства сувязі і інфарматыкі прадоўжыла падпіску на IV квартал бягучага года да 20 верасня.**

Калі вас цікавяць падзеі нашага супярэчлівага жыцця, праблемы палітыкі і эканомікі, хвалююць пытанні культуры, дзейнічайце: яшчэ ёсць час, каб кожны дзень мець свежы нумар нашай газеты. «Звязда» дае адказы на любыя пытанні, а таксама прапануе карысную і проста цікавую інфармацыю.

Газета задаволіць усе густы: у ёй ёсць старонкі для гаспадынь і для модніц, для аўтааматараў і для садаводаў, для спартыўных балельшчыкаў і людзей веруючых. Справа за малым — зайдзіце ў бліжэйшае паштовае аддзяленне і афарміце падпіску на IV квартал 1996 года на «Звязду».

***Падпісная цана «Звязды» на 1 месяц складае 13.600рублёў, на 3 месяцы — 40.800 рублёў.***

## БЕЛАРУСКІ ЎЧАСТАК ГАЗАПРАВОДА ЯМАЛ—ЕЎРОПА ПАВІННЫ ЗДАЦЬ У КАСТРЫЧНІКУ 1997 ГОДА

**Як і планавалася, будаўніцтва газапровода Ямал—Еўропа, які працягнецца па тэрыторыі Беларусі на 570 кіламетраў, пачалося ў верасні бягучага года.**

Паводле слоў генеральнага дырэктара акцыянернага таварыства «Белтрубаправодбуд» Аляксандра Данца, датай пачатку будаўніцтва беларускай часткі газапровода называецца 2 верасня — дзень, калі прадпрыемства «Белтрубаправодбуд» атрымала аванс у памеры 25 працэнтаў ад агульнага кошту праекта на правядзенне будаўнічых работ. Згодна з контрактам, першая партыя 18-метровых ізаляваных труб будзе пастаўлена нямецкай фірмай «Манесман» 22—25 верасня. Пакуль жа на тэрыторыі беларускай часткі газапровода вядуцца падрыхтоўчыя работы. «У эксплуатацыю беларускі газапровод павінен быць здадзены праз 14 месяцаў», паведаміў спадар Данец.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## «ПІНСКДРЭЎ» ДЗЕЛІЦЦА САКРЭТАМ ФІНАНСАВА-ЭКАНАМІЧНАЙ СТАБІЛЬНАСЦІ

Днямі ў грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прайшла прэс-канферэнцыя генеральнага дырэктара, старшыні праўлення калектыўнага аб'яднання «Пінскдрэў» Ларана Арыніча, тэма якой: у чым залог поспеху пінскіх дрэваапрацоўшчыкаў у цяперашніх няпростых эканамічных умовах.

На сустрэчы з журналістамі кіраўнік ведамага ў рэспубліцы аб'яднання абмаляваў карціну сённяшняга дня на прадпрыемстве, прайшоўшы па нядаўнім мінулым «Пінскдрэва», якое было далёка не бязвоблачным.

Ларан Сцяпанавіч адзначыў, што значны крок наперад пінчане зрабілі пасля прыватызацыі монстра дрэваапрацоўкі. Людзі сталі стабільна атрымліваць зарплату, дывідэнды.

Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю, на «Пінскдрэве» поўнасцю захавалася сацыяльная сфера: заканчваецца будаўніцтва дзіцячага сада-камбіната на 450 месцаў, у бліжэйшы час плануецца здаць 70 кватэр.

За апошні час дадаткова ўведзена звыш 900 рабочых месцаў.

Генеральны дырэктар падкрэсліў, што на 1 чэрвеня 1996 г. аб'яднанне не мела ніякай запазычанасці перад дзяржбюджэтам. Толькі летась у казну ў якасці падаткаў паступіла 98 мільярдаў рублёў, а за першае паўгоддзе 1996 года дзяржава атрымала каля 75 мільярдаў рублёў.

Не забыў старшыня праўлення сказаць і пра канфлікт калектыўнага аб'яднання з мясцовай пракуратурай і народным дэпутатам Волкавым. Прайшло паўгода, заключыў Арыніч, а пракуратура ніякага вердыкту наконт крыміналізацыі калектыўнага аб'яднання «Пінскдрэў» так і не вынесла, хоць на аб'яднанне з праверкай двойчы прыязджалі прадстаўнікі Прэзідэнта Беларусі, не гаворачы пра рэйды шматлікіх кантралюючых органаў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## *АДНЫМ СКАЗАМ*

● **Не прайшлі атэстацыю** кіраўнікі «Залатога талера», адзін з супрацоўнікаў «Джэм банка» і гродзенскага «Комплексбанка», намеснік старшыні праўлення і галоўны бухгалтар «Тэхнабанка», намеснік старшыні праўлення «Профбанка», кіраўніцтва і галоўны бухгалтар «Навакомбанка», кіраўнік банка Клімава, намеснік кіраўніка «Белбізнесбанка» па Віцебскай і Мінскай абласцях, начальнік упраўлення гэтага ж банка па Брэсцкай вобласці, намеснік дырэктара «Пріорбанка» па Магілёўскай вобласці, начальнік упраўлення «Белпрамбудбанка» па Віцебскай вобласці.

● За сем месяцаў гэтага года найбольш **спрыяльная сітуацыя з выплатай зарплаты** была ў Мінску, найменш — у Гомельскай вобласці: запазычанасць тут склала адпаведна 12,9 і 27,3 працэнта ФЗП.

● Толькі 1-2 працэнты **кантактаў** беларускіх і замежных бізнесменаў прыносяць практычныя вынікі.

● За апошнія сем гадоў у рэспубліцы **ВІЧ-інфекцыя** лабараторна ўстаноўлена ў 156 чалавек, у тым ліку ў бягучым годзе выяўлены 43 выпадкі.

● Паводле даных Сусветнай арганізацыі аховы здароўя, **амаль 80 працэнтаў** захворванняў на нашай планеце так або інакш звязаны са спажываннем няякаснай пітной вады — дызентэрыя, гепатыт, поліяміэліт...

● **За год сумеснай працы** Мінскага гарадскога камітэта па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі і МФК было праведзена 7 аўкцыёнаў: гарадскі бюджэт папоўніўся на суму, якая складае амаль мільён долараў ЗША.

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 358

## АБ МЕРАХ ПА ПАЛЯПШЭННЮ ЖЫЛЛЁВЫХ УМОЎ МОЛАДЗІ

У мэтах рэалізацыі дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі, паляпшэння жыллёвых умоў моладзі, падтрымкі маладых сем'яў **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што ў 1996-1997 гадах не менш чым 25 працэнтаў агульнай плошчы жылых памяшканняў, пабудаваных за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту для прадастаўлення па дагаворах найму грамадзянам, якія маюць адпаведныя льготы, выдзяляецца наступным катэгорыям маладых грамадзян, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў:

інвалідам;

сем'ям воінаў, якія загінулі або прапалі без вестак;

воінам-інтэрнацыяналістам;

асобам, якія пакутуюць ад цяжкіх формаў некаторых хранічных захворванняў;

мнагадзетным сем'ям, якія маюць траіх і больш дзяцей;

сем'ям пры нараджэнні блізнят;

адзінокім маці;

удзельнікам ліквідацыі вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Пры гэтым павінен захоўвацца прынцып аднаразовасці выкарыстання ўказанымі грамадзянамі права на нечарговае або першачарговае атрыманне жылых памяшканняў па дагаворах найму.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

2.1. унесці змяненні ў парадак і ўмовы прадастаўлення аднаразовых бязвыплатных субсідый на будаўніцтва / рэканструкцыю/ або куплю жылых памяшканняў, прадугледзеўшы іх выдзяленне маладым грамадзянам (незалежна ад часу знаходжання на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў) у памеры не менш чым 50 працэнтаў кошту будаўніцтва жылога памяшкання тыповых спажывецкіх якасцей з прадастаўленнем пры неабходнасці льготнага крэдыту ў памеры астатняй часткі кошту будаўніцтва;

2.2. разгледзець пытанне аб індэксацыі грашовых укладаў маладых грамадзян і іх бацькоў у Акцыянерным ашчадным банку «Беларусбанк», сум па дагаворах страхавання дзяцей па стану на 1 студзеня 1992 г. і аблігацый Дзяржаўнай мэтавай беспрацэнтнай пазыкі СССР 1990 года з накіраваннем гэтых сродкаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў для маладых грамадзян;

2.3. у трохмесячны тэрмін:

распрацаваць і зацвердзіць праграму першачарговых мераў па развіццю маладзёжных жылых комплексаў;

прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы па ўнясенню ў дзеючае заканадаўства змяненняў, што вынікаюць з гэтага Указа.

3. Прапанаваць Нацыянальнаму банку заключыць з Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк» пагадненне аб адкрыцці яму на 1996-1997 гады крэдытнай лініі на суму 800 млрд. рублёў тэрмінам да 40 гадоў для крэдытавання маладых грамадзян, якія ажыццяўляюць будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў, з пагашэннем крэдыту пачынаючы з 1 студзеня 1998 г. і выплатай 2 працэнтаў гадавых за карыстанне ім.

4. Прапанаваць Акцыянернаму ашчаднаму банку «Беларусбанк»:

4.1. прадастаўляць маладым грамадзянам, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў, для будаўніцтва (рэканструкцыі) індывідуальных жылых дамоў, кватэр у парадку долевага ўдзелу ў жыллёвым будаўніцтве, у складзе жыллёва-будаўнічых кааператываў, калектываў індывідуальных забудоўшчыкаў і маладзёжных жылых комплексаў або куплі жылых памяшканняў крэдыты ў аб'ёме адкрытай Нацыянальным банкам крэдытнай лініі ў памеры да 90 працэнтаў кошту будаўніцтва жылога памяшкання тыповых спажывецкіх якасцей (з разліку 20 кв. метраў агульнай плошчы на аднаго члена сям'і) тэрмінам да 40 гадоў з пагашэннем іх пачынаючы з 1 студзеня 1998 г. і выплатай 5 працэнтаў гадавых за карыстанне імі. Прадастаўленне крэдытаў праводзіць пад залог дамоў (кватэр), якія будуюцца (рэканструююцца, набываюцца) з выкарыстаннем крэдыту;

4.2. выдзяляць у першачарговым парадку маладым грамадзянам на набыццё хатняй маёмасці льготныя крэдыты тэрмінам да 3 гадоў з выплатай 10 працэнтаў гадавых за карыстанне імі.

5. Міністэрству фінансаў:

сумесна з Акцыянерным ашчадным банкам «Беларусбанк», Дзяржаўным камітэтам па справах моладзі ў месячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб фінансавай дапамозе дзяржавы маладым сем'ям пры нараджэнні дзяцей у пагашэнні запазычанасці па крэдытах, атрыманых на будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў;

выдзеліць у 1996 годзе аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому 30 млрд.рублёў з рэзервовага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь на развіццё маладзёжных жылых комплексаў. Па ўзгадненню з Кабінетам Міністраў Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін вызначыць парадак выкарыстання гэтых грашовых сродкаў.

6. Дзяржаўнаму камітэту па справах моладзі, аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому па ўзгадненню з Міністэрствам фінансаў стварыць фонд маладзёжнага жыллёвага будаўніцтва. Прадугледзець у палажэнні аб фондзе парадак вяртання грамадзянамі льготных крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў, атрыманых са сродкаў гэтага фонду.

7. Аблвыканкомам і Мінскаму гарвыканкому:

7.1. лічыць паляпшэнне жыллёвых умоў маладых грамадзян адным з прыярытэтных напрамкаў рэалізацыі Нацыянальнай жыллёвай праграмы і Праграмы першачарговых мераў па ўдасканаленню парадку размяшчэння, фінансавання і ажыццяўлення індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва, зацверджанай распараджэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 20 сакавіка 1996 г. № 65рп;

7.2. забяспечыць ва ўстаноўленым парадку першачарговае прадастаўленне зямельных участкаў для індывідуальнага жыллёвага будаўніцтва маладым сем'ям, а таксама маладзёжным жылым комплексам і жыллёва-будаўнічым кааператывам для будаўніцтва жылых дамоў;

7.3. у трохмесячны тэрмін зацвердзіць спісы маладых грамадзян, якія стаяць на ўліку маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў і маюць права на атрыманне льготных крэдытаў на будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў у адпаведнасці з гэтым Указам;

7.4. у двухмесячны тэрмін распрацаваць і зацвердзіць праграмы жыллёвага будаўніцтва для маладых грамадзян на 1997 — 2000 гады, прадугледзеўшы ў іх камбінаваныя сістэмы фінансавання будаўніцтва жылля з выкарыстаннем сродкаў індывідуальных забудоўшчыкаў, прадпрыемстваў, арганізацый, мясцовых бюджэтаў. Па пытаннях, якія патрабуюць рашэння Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і ўрада Рэспублікі Беларусь, унесці адпаведныя прапановы ў Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь;

7.5. забяспечыць будаўніцтва пазапляцовачных інжынерных сетак для дамоў, што прызначаны для маладых грамадзян, за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў, спецыяльных фондаў жыллёвага будаўніцтва, сродкаў, выручаных ад продажу аб'ектаў камунальнай уласнасці, і іншых крыніц.

8. Мясцовым выканаўчым і распарадчым органам, прадпрыемствам, установам і арганізацыям прымаць на асобны ўлік маючых патрэбу ў паляпшэнні жыллёвых умоў маладыя сем'і, у тым ліку тыя, што пражываюць сумесна з бацькамі (незалежна ад узроўню забяспечанасці жылой плошчай), калі яны выказваюць жаданне ажыццявіць будаўніцтва (рэканструкцыю) або куплю жылых памяшканняў за кошт уласных сродкаў, аднаразовых бязвыплатных субсідый і льготных крэдытаў.

9. Персанальную адказнасць за выкананне гэтага Указа ўскласці на:

прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Чыгіра М.М. (пункты 2, 5, 6);

старшыню праўлення Нацыянальнага банка Віннікаву Т.Д. (пункт 3);

старшыню праўлення Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» Ермакову Н.А. (пункт 4);

старшынь аблвыканкомаў Заламая У.А., Андрэйчанку У.П., Шыпука П.У., Дубко А.І., Кулічкова А.М., Петуха П.П. і старшыню Мінскага гарвыканкома Ярмошына У.В. (пункты 7,8).

10. Кантроль за выкананнем гэтага Указа ўскласці на Службу кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь і Адміністрацыю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.

11. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А.ЛУКАШЭНКА.**

10 верасня 1996 г., г.Мінск.

# ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## Аб парадку асвятлення сродкамі масавай інфармацыі работы другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Для кантролю за парадкам асвятлення сродкамі масавай інфармацыі другой сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання ўтварыць Рэдакцыйную камісію ў колькасці 12 дэпутатаў Вярхоўнага Савета:

Старшыня камісіі

**Цярэшка** Іван Іванавіч — дэпутат ад Шаркоўшчынскай выбарчай акругі № 55, Віцебская вобласць.

Члены камісіі

**Біч** Аляксандр Мікалаевіч — дэпутат ад Брэсцкай сельскай выбарчай акругі № 7, Брэсцкая вобласць.

**Герасіменка** Вячаслаў Міхайлавіч — дэпутат ад Петрыкаўскай выбарчай акругі № 110, Гомельская вобласць.

**Грушэўскі** Міхаіл Канстанцінавіч — дэпутат ад Чачэрскай-Кармянскай выбарчай акругі № 100, Гомельская вобласць.

**Кірэеў** Іван Піліпавіч — дэпутат ад Дубровенскай выбарчай акругі № 46, Віцебская вобласць.

**Кузьма** Анатоль Фаміч — дэпутат ад Свіслацкай выбарчай акругі № 139, Гродзенская вобласць.

**Міхадзюк** Віктар Аркадзьевіч — дэпутат ад Асіповіцкай сельскай выбарчай акругі № 173, Магілёўская вобласць.

**Пінчук** Сяргей Мікалаевіч — дэпутат ад Салігорскай-Паўночна-Заходняй выбарчай акругі № 213, Мінская вобласць.

**Пыжык** Віктар Сямёнавіч — дэпутат ад Ваўкавыскай сельскай выбарчай акругі № 119, Гродзенская вобласць.

**Свірыд** Аляксандр Уладзіміравіч — дэпутат ад Ганцавіцкай выбарчай акругі № 15, Брэсцкая вобласць.

**Цярэня** Генадзь Віктаравіч — дэпутат ад Сенненскай выбарчай акругі № 51, Віцебская вобласць.

**Шулякоўскі** Васіль Мікалаевіч — дэпутат ад Слуцкай-Ленінскай выбарчай акругі № 205, Мінская вобласць.

2. «Народнай газеце», газеце «Звязда» аператыўна асвятляць ход работы сесіі.

Афіцыйныя паведамленні аб пасяджэннях Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь для сродкаў масавай інфармацыі рыхтуе БЕЛТА сумесна з Рэдакцыйнай камісіяй.

3. Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь (старшыня Кісель Р. Л.) арганізаваць асвятленне пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у інфармацыйных і спецыяльных тэле- і радыёвыпусках.

З мэтай больш поўнага асвятлення дзейнасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і яго органаў арганізаваць з верасня 1996 года выхад штотыднёвай тэлевізійнай перадачы «Парламенцкая гадзіна» з удзелам дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

Устанавіць, што парадак асвятлення пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па прапанове Рэдакцыйнай камісіі ў асобных выпадках можа быць зменены рашэннем Вярхоўнага Савета.

4. На пасяджэнні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь допускаюцца прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, пастаянна акрэдытаваныя пры Упраўленні інфармацыі Сакратарыята Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, і журналісты, якія маюць разавыя запрашэнні, выдадзеныя прэс-службай Вярхоўнага Савета. Прэс-службе Вярхоўнага Савета і Рэдакцыйнай камісіі аказваць садзейнічанне сродкам масавай інфармацыі ў асвятленні работы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

5. Гэта Пастанова ўступае ў сілу з моманту яе прыняцця.

**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**
**С. ШАРЭЦКІ.**

2 верасня 1996 г., г. Мінск.
№ 549-XIII.

**КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 11 верасня 1996 г.**

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка» (за расійскія рублі) | 5400 | 5510 | | | | | 53-15-04 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 17900 | | 11900 | | 3.20 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 17600 | 18200 | 11800 | 12100 | 3.10 | 3.25 | 372-825 |
| АКБ «Аб'яднаны капітал» | 17700 | 18100 | 11700 | 12100 | 3.10 | 3.30 | 394-092 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 17900 5410 | 18100 5510 | 11950 | 12200 | 3.26 | 3.36 | 331-917 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 17750 | 18550 | 11850 | 12350 | 3.20 | 3.45 | 342-012 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14550 | | 9678.71 | | 2.71 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5361 | | 3578.29 | | 100 бел. р. 29.70 | | |

*Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.*

## З ЗАПАСУ — НА ВАЕННУЮ СЛУЖБУ

У адпаведнасці з артыкулам 17 Закона «Аб усеагульным воінскім абавязку і ваеннай службе» Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў прызваць у гэтым годзе на ваенную службу ва Узброеныя Сілы і пагранічныя войскі групу афіцэраў запасу, якія не прайшлі-тэрміновай ваеннай службы, для іх выкарыстання на пасадах афіцэрскага саставу. З іх 25 чалавек будуць накіраваны ва Узброеныя Сілы, 13 — у пагранічныя войскі. Узрост прызваных з запасу не павінен перавышаць 27 гадоў.

**БЕЛТА.**

## ДВА ГАДЫ ПРАЦУЕ Ў МІНСКУ МІЖНАРОДНЫ АДУКАЦЫЙНЫ ЦЭНТР

Калі ў 1991 годзе на ўскраіне Мінска, побач са старой драўлянай забудовай быў закладзены камень у падмурак будучага Міжнароднага цэнтра, не ўсе прысутныя паверылі, што з гэтага можа нешта атрымацца. Але праз тры гады на былым занядбаным кавалку зямлі ўзняўся будынак арыгінальнай архітэктуры.

Новыя часы былі азнаменаваны нараджэннем сумеснага беларуска-нямецкага прадпрыемства.

Што яно сабой ўяўляла? Канферэнц-зала на 300 месцаў і ўстаноўка для сінхроннага перакладу, тры семінарскія памяшканні з неабходным абсталяваннем, бібліятэка, гатэль на 80 месцаў, рэстаран, клуб і сауна.

Дырэктар цэнтра з нямецкага боку Петэр Юнге Вентруп на прэс-канферэнцыі з нагоды адкрыцця сфармуляваў канцэпцыю яго дзейнасці, а таксама прычыну, якая падштурхнула нямецкі бок да будаўніцтва такога адукацыйнага цэнтра. «У імя прымірэння нашых народаў, — сказаў пан Вентруп. — Дзеля дыялогу і супрацоўніцтва».

Два гады існавання цэнтра сталі перыядам станаўлення прадпрыемства і ўмацавання яго аўтарытэту. Адукацыйныя праграмы, арганізаваныя цэнтрам (толькі ў 1995 годзе іх было 18), прыцягнулі ўвагу самых розных слаёў насельніцтва, сацыяльных і ўзроставых груп.

Надзвычай актуальнымі аказаліся міжнародныя канферэнцыі «Інвестыцыі ў Беларусі», «Свет пасля Чарнобыля», а таксама цыкл семінараў па праблемах энергазберажэння, утылізацыі адходаў і аховы навакольнага асяроддзя.

Асобна трэба адзначыць работу цэнтра з моладдзю. Для яе, акрамя маладзёжнага клуба і моўных курсаў, былі наладжаны семінары па праблемах сучаснай палітыкі, арганізацыі ўласнага бізнесу.

Прыйшлі ў цэнтр і ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, якія арганізавалі тут свой клуб.

Два гады дзейнасці Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Мінску былі адзначаны ўрачыстым сходам дырэкцыі і грамадскага савета. З гэтай нагоды была наладжана прэс-канферэнцыя.

На пытанне, ці адбылася карэкціроўка дзейнасці цэнтра ў апошні час, яго цяперашні дырэктар Клаус Баер адказаў, што нічога ў дзейнасці МАЦ не мяняецца. Яго стратэгічная лінія накіравана на дасягненне ўзаемаразумення ў беларускім грамадстве, паміж Беларуссю і Германіяй. Традыцыі цэнтра, як падкрэсліў пан Баер, — гэта сустрэчы, дыялогі, абмен думкамі. Па-ранейшаму на базе цэнтра будуць рэалізоўвацца шматбаковыя праграмы і праекты.

— У мяне складваецца ўражанне, што Усход губляе цікавасць да Захаду, а Захад — да Усходу. Палітычныя дзеячы ў вас звярнулі пільную ўвагу на Расію. Да таго ж на Захадзе спадае цікавасць да Усходу яшчэ і таму, што ў іх саміх узнікла мноства праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння. Але, нягледзячы на ўсе гэтыя цяжкасці, ідэю будаўніцтва еўрапейскага агульнага дома нельга загубіць.

На прэс-канферэнцыі прысутным было паведамлена, што ў перспектыве, і зусім не далёкай — будаўніцтва другой чаргі цэнтра. Дарэчы, прапаноўваліся некалькі канцэпцый забудовы. Адна з іх — узвесці 20-павярховую гасцініцу на той тэрыторыі, што належыць цэнтру, але перамагла ідэя іншая — модульная забудова двухпавярховымі катэджамі. Мяркуецца, што вакол цяперашняга будынка МАЦ размесцяцца 32 модулі. Тады гэта ўжо будзе цэлы гарадок.

**Таццяна АНТОНАВА.**

## Зменены працэнтныя стаўкі па ўкладах насельніцтва

**Акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк» устанавіў новыя працэнтныя стаўкі па ўкладах насельніцтва.**

Як паведамілі ў прэс-службе «Беларусбанка», па накапляльных, дзіцячых мэтавых, тэрміновых укладах на тэрмін не менш чым адзін год, а таксама тэрміновых не менш чым адзін месяц устаноўлена стаўка ў памеры 30 працэнтаў гадавых. Зменены таксама працэнтныя стаўкі па валютных укладах, па ўкладах да запатрабавання стаўка складае цяпер 1 працэнт гадавых, па тэрміновых у залежнасці ад тэрміну захоўвання і памеру ўкладу — ад 2 да 8 працэнтаў гадавых. Працэнтныя стаўкі па рублёвых укладах да запатрабавання і кампенсацыйных укладах захоўваюцца ў ранейшым памеры (12 і 33 працэнты гадавых адпаведна).

**Сяргей ЛІТВІН, БелаПАН.**

### СОНЦА *СЁННЯ*

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 6.36 | 19.35 | 12.59 |
| Віцебск – | 6.25 | 19.27 | 13.02 |
| Магілёў – | 6.25 | 19.24 | 12.59 |
| Гомель – | 6.26 | 19.18 | 12.52 |
| Гродна – | 6.53 | 19.48 | 12.55 |
| Брэст – | 6.54 | 19.49 | 12.55 |

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Аляксандра, Іаана і Паўла, Данііла.**
**К. Гвідона.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у заходніх раёнах пройдуць дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску — 11—13, Магілёве і Гродне — 13—14, Мінску, Брэсце, Гомелі — 13—15 градусаў.

У наступныя двое сутак на большай частцы тэрыторыі дажджы. Тэмпература ўначы 13-га — 6—11, 14-га — 9—14; удзень — 11—16; 14-га на крайнім усходзе — да 20 градусаў цяпла.

### ВЫТВОРЧЫЯ ДРАМЫ

## КАЛІ КАРАБЕЛЬ ПАТАНАЕ...

Недзе ў канцы сямідзесятых з'явілася магчымасць разам з групай творчай моладзі з Беларусі пабываць аж у Сібіры, там, дзе на поўначы Цюменскай вобласці ў тыя гады ў вялікіх аб'ёмах пампавалі нафту, затыкалі ёю дзіркі ўжо досыць прагнілай эканомікі. І якое ж было маё здзіўленне, калі ў ханты-мансійскай краме ўбачыў салянку з Глыбоцкага кансервавага завода. Дзе тая Беларусь, хіба ж эканамічна выгадна было везці, але, бач ты, прывезлі. І купляюць. У тыя часы завод славіўся сваёй прадукцыяй. Потым, ужо ў васьмідзесятыя, чуў пра тое, што завод па-ранейшаму на пад'ёме, вядзецца вялікае будаўніцтва, устанаўліваецца сучаснае абсталяванне...

І вось атрымліваю ліст, у якім расказваецца, што завод практычна стаіць, апісваецца яго маёмасць, былы дырэктар пакінуў прадпрыемства, новы нічога не можа зрабіць, а 250 рабочых застаюцца кінутымі на волю лёсу. Уласна кажучы, сітуацыя такая ж, як і на многіх іншых прадпрыемствах. Але вырашыў паехаць.

У Глыбокім бываю даволі часта, а вось з кансервавым заводам давялося пазнаёміцца ўпершыню.

Сапраўды, сітуацыя на заводзе ўжо перайшла тую рысу, якая называецца крытычнай. Даўгоў у прадпрыемства — на 14 мільярдаў рублёў. З лістапада мінулага года працавалі з прастоямі, з красавіка ж гэтага ўвогуле стаялі. А даўгі ж накопліваліся: толькі кацельня, якая ацяпляе прадпрыемства, і так званы «сацкультбыт» штодзень зімою з'ядалі 4,5 тоны мазуту: неабходна было не пакінуць на галоднае існаванне рабочых — выплачвалі дзве трэці тарыфнай стаўкі. Прыходзілі ж людзі ў дырэкцыю літаральна са слязьмі на вачах: «Дайце хоць што-небудзь, на хлеб няма, а дзеці прыязджаюць...» Дарэчы, дырэкцыя для людзей рабіла ўсё, што было ў яе сілах. Па бартэру завозілі з Расіі рыбу, перапрацоўвалі, «прадавалі» працаўнікам прадпрыемства. Так сустрэлі вясну і лета.

Але ў яміне апынуліся глыбачэннай. У чым жа прычына такога падзення? У Глыбокім не выключэнне, уся харчовая прамысловасць у такім жа ці амаль такім жа стане. Адна з прычын, як мне здаецца, — зніжэнне жыццёвага ўзроўню людзей. Прадукцыя кансервавага завода выпускаецца для таго, каб з'ядацца. Але народ наш становіцца ўсё бяднейшым і бяднейшым. У яго ўжо няма грошай на нейкія там салянкі ці іншыя вырабы, на сокі і павідла. Хапіла б на хлеб ды малако, і то добра. А некалькі гадоў махавік круціў вытворчасць па-ранейшаму: выпусціць прадукцыі не менш, чым у мінулым годзе. Пра тое, што гэту прадукцыю ніхто не будзе купляць у цяперашняй эканамічнай сітуацыі, ніхто не думаў. Для таго, каб захаваць «узровень вытворчасці», каб дапамагчы калгасам, заводу загадвалі браць крэдыты на закуп сыравіны пад... 480 працэнтаў. Ну няўжо вытрымае гэты працэнт прадпрыемства, якое аддае сваю прадукцыю гандлю пад рэалізацыю? І сёння ў Глыбокім на заводзе прадукцыі на 4,5 мільярда рублёў. Гэта той жа яблычны сок, сок бярозавы, салянкі, баршчы ды шчы. На Беларусі тавар не ідзе і пакуль што не пойдзе. Што зробіш — бедната. У Расіі яго возьмуць. Але, як заўважае цяперашні дырэктар прадпрыемства Уладзімір Гаўрылаў, туды яны адпраўляць яго ўжо баяцца. Расійскія гандлёвыя арганізацыі і фірмы павінны прадпрыемству яшчэ з мінулага года 1,8 мільярда рублёў (расійскіх, зразумела). Але атрымаць іх ніяк нельга. Хаця і заключаны дагаворы, а практычных механізмаў спагнання няма.

Такім чынам, завод — банкрут. Апісваецца маёмасць. Ужо адабраны за даўгі тры аўтамашыны, адбіраецца сталовая, арачнікі, гаражы. Але самае страшнае для калектыву тое, што незваротна ўпушчаны сезон нарыхтовак сыравіны. З-за адсутнасці грошай яе практычна не закуплялі. Хаця звярталіся і звяртаюцца па ранейшай звычцы на прадпрыемства і арганізацыі, і асобныя грамадзяне: «Вазьміце яблыкі», «Ці будзеце браць брусніцы?» Ёсць на прадпрыемстве цікавыя распрацоўкі па новых гатунках прадукцыі з тых жа брусніц і журавін. Але няма грошай, няма як уздыхнуць. «Нам бы паўтара-два гады перадыху, — гаворыць дырэктар, — і прадпрыемства ўстала б на ногі. І хоць прымаюцца неблагія рашэнні, рэальнай дапамогі пакуль што няма. А між іншым, не за гарамі час, калі і нашы, беларускія спажыўцы будуць прасіць прадукцыю, нашу прадукцыю, якая па сваіх якасцях вельмі і вельмі неблагая. А прадукцыі гэтай не будзе».

Як жа да гэтага часу завод ліпіць? Чаму ў цэхах яшчэ працуюць людзі?

Уласна кажучы, і запрацаваў ён не самастойна, а дзякуючы Падсвільскаму заводу харчовых прадуктаў. Там знайшлі неабходныя крэдыты, запусцілі лінію па перапрацоўцы зялёнага гарошку. Зразумела, што большасць прадукцыі сёння і належыць іншаму прадпрыемству. Застаецца на глыбоцкім заводзе тое, што за работу. На такіх жа ўмовах працуе прадпрыемства сёння і з камерсантамі. Тыя ў асноўным пастаўляюць яблыкі. 30 працэнтаў за работу — і яшчэ ж гэту прадукцыю трэба рэалізаваць. З камерсантамі працаваць цяжка, а часам і небяспечна. У большасці з іх адно імкненне — як мага хутчэй і як найбольш «урваць». Але іншага выйсця пакуль што не бачна.

А прадпрыемства магло б даваць краіне валюту. І нямала. Справа ў тым, што ў лепшыя часы была ўстаноўлена на заводзе нямецкая лінія па вытворчасці яблычнага канцэнтрату. (Калі звычайны сок утрымлівае 9 працэнтаў сухіх рэчываў, то канцэнтрат — 70.) У нас прадукцыя практычна не карыстаецца попытам, затое на Захадзе яе бяруць ахвотна. У мінулым годзе завод прадаваў канцэнтрат у Германію па 2,5 маркі за кілаграм. А лінія за сезон можа вырабіць 450 тон такога канцэнтрату. Дарэчы, камерсанты, якія пастаўляюць сёння яблыкі і забіраюць ільвіную частку прадукцыі, — расійскія. Значыць, сёння мы аддаём валюту ў Расію...

У свой час задумалі на заводзе пабудаваць халадзільнік на 500 тон з хуткамаразільнікам. Узведзены каркас, завезена неабходнае абсталяванне. А справа стала з-за адсутнасці грошай. А хутказамарожаныя чарніцы, журавіны, якіх у навакольных раёнах вельмі шмат, карыстаюцца таксама вялікім попытам там, дзе і знаходзіцца такая жаданая валюта.

Я пабываў у цэхах завода, размаўляў з рабочымі. І з жалем думаў: як усё-такі мала трэба нашаму чалавеку. Зіму прасядзелі на галодным пайку, ды і цяпер заробкі такія, што ў якога-небудзь сталічнага рабочага могуць выклікаць жах. Але радуюцца людзі, радуюцца найперш ужо таму, што ёсць работа, ёсць надзея — завод будзе працаваць. З ім яны звязваюць свой далейшы лёс, аб іншым пакуль што і не думаюць. Вось Ванда Станіславаўна. Жыве яна адна. Пазычыла пяцьсот тысяч на паліва, а як цяпер аддаваць — і сама не ведае. Завод, толькі ён можа дапамагчы жанчыне, калі дасць работу і зарплату.

А між тым ужо і калгасы, якія пастаўлялі сыравіну, пачынаюць прад'яўляць прадпрыемству іскі. Іх можна зразумець. І не хочуць яны браць пад доўг прадукцыю. Ну хіба што канцэнтрат. Але канцэнтрат ужо расійскі...

Няўжо яшчэ 250 рабочых напаткае глыбокае расчараванне — беспрацоўе?

**Алесь КАСЦЕНЬ.**
Віцебская вобласць.

## РАБАЎНІКІ ПРЫХАПІЛІ І ЎЗНАГАРОДЫ

Ў Навагрудскі РАУС звярнуўся пенсіянер, жыхар вёскі Атмінава, і заявіў, што 27 жніўня ў 10 гадзін вечара двое невядомых разбілі аконную шыбу і праніклі ў дом.

Злачынцы звязалі гаспадара і яго жонку і пачалі забіраць усё, што, на іх погляд уяўляла сабой хоць якую-небудзь каштоўнасць. Не дзіва, што асаблівых «скарбаў» рабаўнікі ў хаце пенсіянераў не знайшлі: радыёпрыёмнік, настольны гадзіннік, бензапілу, прас... На вочы злачынцам трапіліся ордэны і медалі СССР. Рабаўнікі забралі і іх.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС.**

### МОЙ РОДНЫ КУТ

## ДАРОГА ДАДОМУ...

**Кожны чалавек, куды б яго не занесла жыццё, з хваляваннем у сэрцы думае пра дарогу дадому, да таго месца, адкуль пачалася ягоная гісторыя. Шлях дамоў выпадае часам звілісты, а бывае, што яго праходзіць не толькі канкрэтны чалавек, а разам з ім — цэлае пакаленне, або народ.**

### ХРАМЫ НА ЗЯМЛІ

Я еду дадому... Люблю гэтыя светлыя і радасныя моманты ў маім жыцці, калі, вырваўшыся з палону дробных дамашніх клопатаў, урачыста рвецца душа хутчэй наперад па знаёмых да болю мясцінах.

Вось ужо і за межамі Бярозы, а там Няхачава, паварот налева, і бягуць сасонкі, радасна мільгаюць, аб чымсьці гамоняць. Настрой узнёслы, святочны, а ў галаве ці то мары, ці то ўспаміны — мітусяцца ўрыўкі ўсяго гэтага, ды раптам абрываюцца, бо як на далоні гарадок Косава. І позірк міжволі шукае granёныя вежы, падобныя на вартавых прыгажуна-замка на Мерачоўскім узгорку. Але гэта па старой звычцы, бо цяпер шаты сонаў-маладзічак хаваюць белы палац ад людскога вока.

І вось расступаюцца стромкія сосны, і я стаю, уражаная ўрачыстасцю формаў і ліній. Што ні кажыце, дзіўны быў тут замак паслярыцарскіх часоў: замест вузкіх байніц глядзяць шырокія створкавыя вокны і вітражы, а granёныя вежы падпіраюць унутраныя пакоі, згрупаваныя вакол вестыбюля.

Прыгожая архітэктурная аздоба ў стылі неаготыкі: зубцы — завяршэнні асноўных аб'ёмаў, вузкія спічастыя аркі дзвярных і аконных праёмаў і інш. І хочацца аддаць даніну вялікай павагі выдатным італьянскім майстрам-архітэктарам Ф. Яшчолду і В. Марконі, што па заказу ваяводы Казіміра Пуслоўскага і яго сына Вандаліна ў 40-х гадах мінулага стагоддзя ўзвялі такі цудоўны палац.

Калісьці тут лілася музыка, балявалі, кіпела жыццё. А зараз, абгарэлы, пакалечаны, адзінокі, ён слухае шэпт кучаравых хвояў і радуецца, калі парушаецца самотная цішыня прыхільнікамі яго прыгажосці.

Хто бывае ў Мерачоўшчыне, абавязкова зверне ўвагу на два камяні-валуны, што прыцягваюць наведвальнікаў да ўзгорка з рэшткамі падмурка, абнесенага агароджай. Аказваецца, доўгі час у добрым суседстве з палацам тут стаяў аднапавярховы драўляны дом з двума дымаходамі, тонкай красуняй-бярозкай, старой разгалістай ігрушай на падворку. Гаспадар каменнага будынка Вандалін Пуслоўскі вельмі аберагаў гэты дамок, ушаноўваючы памяць Тадэвуша Касцюшкі, кіраўніка нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 года. Добраахвотнікам Т. Касцюшка ўдзельнічаў у вайне за незалежнасць ЗША. У чатырох гарадах Амерыкі — Вашынгтоне, Чыкага, Кліўлендзе і Мілуоках — пастаўлены помнікі генералу, а ў штаце Місісіпі невялікі горад названы яго імем. Пахаваны наш зямляк на Вавелі ў Кракаве.

Дом Касцюшкаў, на жаль, не захаваўся, згарэў у гады чорнай фашысцкай навалы. Толькі засталіся сціплы надпіс, сціплая агароджа, сціплая памяць.

І я ад яго ад'язджаю ўсё далей. Праз якія паўгадзіны і Ружаны. Якая слынная тут зямля! Капнуць яе трохі — і пасыплецца ўраджайнае зерне нашай гісторыі. Толькі мы лянівыя, нядбайныя, топчам гэтыя залатыя пясчынкі, не заўважаем іх з-за сваёй закарузласці, абыякавасці. А прыедзьце ў Ружаны — такімі чарамі заварожыць вас некалі бліскучы палац, што раскінуўся па ўзгорку, як зачараваў калісьці Уладзіміра Караткевіча, які пісаў, што лепшы будынак «цяжка сабе ўявіць, бо аб астатніх у гэты момант забываеш».

Падыхожу да ўязной брамы, пабудаванай накшталт трохпралётнай трыумфальнай аркі, аздобленай радавым гербам Сапегаў у выглядзе савы, разьбою з моранага дуба, з двухпавярховымі флігелямі па баках.

А далей, як вокам кінуць, зялёны мурог. Асцярожна ступаю і думаю: пазарасталі травою сляды гаспадароў-князёў Сапегаў і шматлікіх гасцей, у тым ліку і каралёў Сігізмунда І, Уладзіслава IV, Станіслава Аўгуста.

Маўкліва-сцішана пустымі аканіцамі зеўрае будынак, дзе размяшчаўся тэатр, музычная, оперная і балетная школа. Значыць, багатая была на таленты Ружанская зямля.

Мне хочацца пахадзіць па руінах цэнтральнага палаца, бо ведаю, што тут захоўваўся архіў, сабрана была багатая бібліятэка з мноства рэдкіх рукапісных кніг, яна і дала пачатак сапегаўскаму кнігазбору. Не засталося следу ад карціннай галерэі. Душу вярэдзіць смутак: дзе гэтыя духоўныя скарбы, ці вернуцца яны на бацькаўшчыну?

Гарадок заўсёды рабіў на мяне добрае ўражанне. Дамы ў асноўным мураваныя, двух,- трохпавярховыя, чыстыя вуліцы з яркімі клумбамі на фоне зялёнага аксаміту. А ў гэты раз заўважыла, што кветкі зніклі і аблічча горада змянілася: павеяла шэрасцю, сумам. Толькі, як і раней, пунсавеюць кветкі ў скверы, дзе пастаўлены помнік Іосіфу Урбановічу, арганізатару камуністычнага падполля і партызанскага руху ў Брэсцкай вобласці. І, як заўсёды, дагледжаны Курган Славы.

...А дарога бяжыць далей — то ўверх, то ўніз. Да самай шашы падступае лес, і я ўжо адчуваю пах хвоі і жывіцы, удыхаю на поўныя грудзі. Ды разрываецца лес жытнёвай паласой і цягнецца з нізінкі на пакаты ўзгорак, за якім невялічкая вёсачка Шэйпічы. Углядаюся ў яе, але мала што тут змянілася, такія ж звычайныя сялянскія хаты, толькі некаторыя падноўленыя, пафарбаваныя. З двух бакоў вёска аточана драмлівым лесам, наперадзе дарогі сочная зеляніна. З гэтай глухой вёсачкі праклаў шырокую дарогу ў свет музыкі Міхась Забэйда-Суміцкі. Доўга замоўчвалася яго імя, а мы, маладзейшае пакаленне, ведалі (слухамі поўніцца зямля), што дзесьці ў Празе жыве вядомы ўсяму свету спявак, наш зямляк.

І вось тая памятная вясна 1963 года, гастролі М. Забэйды ў Мінску. Як зараз бачу яго, высокага, з лёгкімі рухамі, надзвычай інтэлігентнага, з добрай, сціплай усмешкай і затоеным смуткам у вачах. А голас бруіўся як ручаёк. Ён жа, які спяваў на шаснаццаці мовах, заўсёды аддаваў перавагу роднай беларускай песні; яго ў Чэхіі так і называлі:: «пражскі беларус». Не спраўдзілася яго мара вярнуцца ў матчын край. Але імя беларускага салаўя ўсё ж вернута з нетраў забыцця на Бацькаўшчыну.

### ХРАМ У СЭРЦЫ

Лічаныя кіламетры застаюцца да самай дарагой, да самай мілай вёскі з такой лагоднай назвай — Зеляневічы. І я ціхенька нашэптваю:

*Радней няма, бліжэй таксама,*
*Мой родны кут, мой мілы кут...*
*І застаецца лепшым храмам*
*Твой кожны дол, твой кожны груд.*

Учэпістая памяць маленства. Многае змянілі дзесяцігоддзі, а помніцца ўсё да самай малюсенькай драбніцы. Даўно няма той хаціны, дзе нарадзілася, дзе прайшлі маё дзяцінства і поўнае надзей юнацтва. А мне бачыцца той зялёны грудок, спавіты мяккім спарышом, і белы кіпень бэзу, і снежная замець вішняў, і чароўны вэлюм чаромхі. Я ў думках пераступаю парог, праходжу сенцы, расчыняю дзверы ў хату, і мяне асвятляе язык полымя, што падхопліваецца, як у нейкім танцы. Мяне цягне да гэтага цяпла. Паліцца ў печы — значыць мама дзесьці побач, выйшла толькі на хвілінку. Я адчуваю смак крынічнай вады, якую чэрпаю з вядзерца, што вісіць на драціне ў куточку. Саджуся за стол, дзе навыперадкі, апякаючыся, елі зацірку і крупнік. Толькі заныла ў сэрцы — няма гэтага і не будзе.

Ацалела на грудочку прысадзістая, з пышнай кронай ігруша-дзічка. Гады яе не змянілі, такая ж прыгожая, круглаверхая. Колькі разоў прыбягала сюды, збірала грушы ў прыпалік, а затым хавала ў сена, каб позняй восенню ласавацца гнілушкамі.

Невясёлыя думкі накочваюцца, бы хваля на бераг...

*Што засталося нам ад летуценняў,*
*Што пакідаем мы ў жыцці?*

Азіраюся на вёску: двума радамі цягнецца яна. Новы рад дабротных дамоў вынесены за прыгуменне, тут каляровыя веснічкі, кветкі, жыццё б'е ключом.

Але хочацца прайсціся па маёй старой вёсцы з замшэлымі стрэхамі. Пустая адна хата, другая, і раптам я заўважаю згорбленую фігурку. Яна прыталілася, цікуе за мною, прыклаўшы ад сонца стрэшкай далонь. Здзіўленне ў вачах, а потым цяпло і радасць.

— Божачкі мае, гэта ты? Дзякуй Богу, не зракаешся нас!

Падыходзяць яшчэ жанчыны, сталім кружком, пытаюцца аб маім жыцці, дзіцяці гэтай вёскі, немнагаслоўна распавядаюць пра сябе.

— Ат, міленькая, дажываем. Адны засталіся, дзеці і ўнукі зараз рэдка прыязджаюць, бо дарога ж дарагая...

Я еду ад роднага дому — дадому...

**Ірына ЖАЛУДКА, в. Равяцічы.**

## ІНСПЕКТАРСКІ ВАЯЖ ПРАЙДЗІСВЕТА

Віктар Шэцька, 1973 года нараджэння, падарожнічаў з Оршы ў Мінск. З выпадковай размовы ў электрычцы даведаўся, што ў нейкім талачынскім саўгасе транжыраць гаручае. Выйшаў на патрэбным прыпынку, пашыбаваў у гаспадарку. Знайшоў дырэктара, прадставіўся: «Я з камісіі Прэзідэнта, правяраю захаванасць і выкарыстанне гаруча-змазачных матэрыялаў».

Дырэктар разгубіўся настолькі, што ў юнака нават не спытаў пасведчання. А той з веданнем справы прыступіў да інспектавання. З «веданнем» таму, што ў дзяцінстве круціўся каля бензіну, бо маці працавала на калгаснай запраўцы. Гэтых ведаў, аднак, хапіла, каб «златвіць» кіраўніка гаспадаркі на марнатраўстве.

— Паехалі ў райвыканком, — загадаў яму малады «інспектар».

З-за адсутнасці галавы раёна высокага госця прыняў намеснік старшыні раённай адміністрацыі. Напалоханы нечаканым візітам «прэзідэнцкага рэвізора», ён таксама не абцяжарыў сябе элементарным клопатам: папрасіць прад'явіць мандат. Баяўся, відаць, пакрыўдзіць вялікага чалавека «адтуль».

Віцёк адчуў смак і пачаў правяраць усё ў раёне: фірмы, элеватар, рынак... Што вы думаеце, усюды ён знаходзіў недахопы. Зрэшты, пры нашай безгаспадарчасці тут не трэба вялікага розуму.

— Чаму малаком з зямлі гандлюем? — наганяў ён страху на чыноўнікаў мясцовага рынку.

І тыя хуценька абсталявалі для малочніц гандлёвыя месцы. Вось бабулькі дзякавалі «інспектару»!

Стаміўшыся ад рэвізій, сталічны госць вырашыў адпачыць. Як і належыць работніку рэспубліканскага рангу, разменьвацца на дробязі не стаў. Выбраў маляўнічае возера ў Новалукомлі і запатрабаваў асабістую ахову. З сяржантам міліцыі, якога, дарэчы, потым празаічна абакраў, лавілі вугроў, пакуль не надакучыла. Віця чуў, што ў Бабруйску ёсць нядрэнны санаторый. Узнікла ідэя «зняць» такую ж юную «прадстаўніцу» і прадоўжыць адпачынак у цывілізаваных умовах.

Але наваяўленага Хлестакова «панесла». Устрымацца ад праверак ужо не мог: спадабалася, што частуюць, даюць падарункі, а галоўнае — вельмі баяцца. Таму, як толькі прыбыў у Бабруйск — неадкладна прыступіў да сваіх «няўдзячных абавязкаў». Балазе таксіст, які падвозіў Віцю да гасцініцы, падкінуў негатыўных фактаў, асабліва з жыцця кінафікацыі. З яе і пачаў кантралёр шырокага профілю. Нават склікаў нараду, дзе ад імя Прэзідэнта не толькі загадваў, але і велікадушна раздаваў абяцанні, ад якіх у кінафікатараў на вочы набягалі шчымлівыя слёзы радасці.

Потым Шэцька, які нядаўна вучыўся ў школе і ў сельскім прафтэхвучылішчы, заняўся сістэмай адукацыі. Яго вазілі па школах, ён гутарыў з дырэктарамі, даваў указанні па ўдасканаленню вучэбна-выхаваўчага працэсу, крытыкаваў і абяцаў.

Фраера, як і заўжды, згубіла страта пачуцця меры. Не трэба было яму высоўвацца з глыбінкі. А ён набраўся нахабства і палез да самога Раманоўскага — чалавека, які кіруе такім вялікім Бабруйскам. Мэр спытаў: з якой мэтай візіт? Віця аджартаваўся: маўляў, гуманітарная дапамога. На тым і развіталіся. Але ненадоўга. З нарады, якая праходзіла ў гарвыканкоме, выклікалі начальнікаў мясцовых упраўленняў КДБ і міліцыі. Яны і «ўзялі» самазванца — «супрацоўніка другога аддзела Адміністрацыі Прэзідэнта». Але як завуць кіраўніка Адміністрацыі, Віця не ведаў.

Застаецца дадаць, што сам В. Шэцька — зваршчык, жыве ў вёсцы ў бабулі. І яшчэ паставіць пытанне: якім чынам удавалася яму тлуміць галовы гэтулькім службовым асобам? Следства разбярэцца, а я, не абараняючы злачынна даверлівых чыноўнікаў, мушу заўважыць: у нас зараз процьма розных камісій і правяраючых, дык у гаспадарнікаў ад іх ужо галовы круцяцца. Калі б было інакш, то не здымалі б шапку перад такімі, як Віця Шэцька.

**Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

# Мытнікаў абвялі вакол пальца. На 3,3 трыльёна бюджэтных рублёў

**Учора савет Кантрольнай палаты Беларусі на сваім пасяджэнні разглядаў матэрыялы па фактах парушэння дзеючага мытнага заканадаўства (у 1994—1995 гг.) і неналежнага выканання мытнымі органамі сваіх функцый.**

Адразу падкрэслім, што, на думку Савета, не забяспечыўшы належнага дзяржаўнага мытнага нагляду, мытныя органы тым самым пазбавілі бюджэт 3,3 трыльёна рублёў, або больш чым 8 працэнтаў даходнай часткі бюджэту рэспублікі на бягучы год. Сума вельмі унушальная.

Адзін толькі прыклад таго, як нашы мытнікі даюць абвесці сябе вакол пальца. У ліпені мінулага года замежнае прадпрыемства «Эка-Імпэкс» увезла з Польшчы 15 тысяч бутэлек пеністага віна «Оберхофер» агульным коштам 12 тысяч долараў ЗША, а ў грузавой мытнай дэкларацыі на падробленай спецыфікацыі заявіла рэжым свабоднага абарачэння ўпамянёнага вышэй тавару як сусла вінаграднага «Оберхофер» агульным коштам 6450 долараў ЗША. Гродзенская рэгіянальная мытня «праглынула» падробку і дала дазвол на рэалізацыю віна ў Беларусі. У рэшце рэшт, пасля падлікаў спецыялістаў, праз «дзіравую» кішэню дзяржавы праляцела 227,97 мільёна рублёў мытнай пошліны і 172,71 мільёна рублёў акцызаў. Да вышэйсказанага дададзім і тое, што з улікам штрафаў, пені і фінансавых санкцый «Эка-Імпэкс» павінна ўнесці ў бюджэт 1.150,84 мільёна рублёў, з якіх па стану на 1 чэрвеня гэтага года спагнана толькі 73.457 тысяч рублёў.

Больш падрабязную інфармацыю па выяўленых Кантрольнай палатай фактах мы дадзім у адным з бліжэйшых нумароў.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

# ПЕРАХОДЫ НА ЗАХОДНЯЙ ГРАНІЦЫ ПЛАНУЕЦЦА «РАССУНУЦЬ»

**У два з паловай разы ўзрастае прапускная здольнасць пункта пагранічнага мытнага афармлення «Брузгі» каля Гродна пасля яго расшырэння. Калі цяпер ён разлічаны на прыём у двух напрамках тысячы адзінак транспарту ў суткі, то ў бліжэйшай будучыні гэта лічба павінна павялічыцца да дзвюх з паловай тысяч.**

Ужо аб'яўлены конкурс на права ўдзелу ў будаўніцтве аб'екта, а інстытут «Гроднаграмадзянпраект» распрацоўвае неабходную дакументацыю. Праект прадугледжана ажыццявіць на працягу бліжэйшых двух гадоў у некалькі этапаў. Спачатку будзе пабудаваны так званы ўязны комплекс з памяшканнямі для догляду аўтобусаў, легкавога і грузавога транспарту, затым — адміністрацыйна-бытавы корпус. Канчатковым этапам будаўніцтва стане рэканструкцыя шашы, што вядзе да кантрольна-прапускнога пункта.

У перспектыве плануецца таксама расшырыць пагранічны аўтапераход «Бераставіца», які прызначаны для грузавога транспарту. Як паведамілі карэспандэнту БЕЛТА на Гродзенскай рэгіянальнай мытні, рэалізацыя абодвух праектаў пачнецца па меры выдзялення сродкаў з дзяржбюджэту.

**Канстанцін БАЛАТЭВІЧ, БЕЛТА.**

# ЗНОЎ НЕ ПРАЦУЕ ІГНАЛІНСКАЯ АЭС

**З-за няспраўнасці 10 верасня спынены рэактар першага энергаблока Ігналінскай АЭС. Такім чынам, электрастанцыя поўнасцю не працуе, паколькі другі энергаблок закрыты на планавы рамонт да 1 кастрычніка.**

Паводле звестак літоўскага інфармацыйнага агенцтва ЭЛЬТА, 10 верасня ў 2 гадзіны 10 хвілін у сістэме рэгулявання першага турбагенератара першага энергаблока была заўважана ўцечка масла. У адпаведнасці з інструкцыяй аператар выключыў турбіну. Сістэма ахповы, якая аўтаматычна ўключылася, спыніла рэактар першага энергаблока. Пры гэтым радыяцыйны фон не змяніўся.

Прычыны няспраўнасці аналізуюцца.

Гэта пятае з пачатку года вымушанае спыненне на Ігналінскай АЭС. Апошні раз станцыя не дзейнічала з 27 жніўня па 1 верасня.

**Эльта-БЕЛТА.**

# ПЛАСТЫКАВЫ ПРАЯЗНЫ:

## *прагрэс на транспарце ці галаўны боль пасажыраў?*

**Не паспелі мінчане засвоіць «азы» карыстання пластыкавымі тэлефоннымі карткамі, як прыйшлося ім прывучацца ўжо да пластыкавага праязнога. З просьбай пракаменціраваць сітуацыю з увядзеннем у сталічным пасажырскім транспарце пластыкавых праязных «Звязда» звярнулася да галоўнага спецыяліста вытворчага ўпраўлення транспарту і сувязі Мінгарвыканкома Ніны ЧУМАКОВАЙ.**

— Вядома, праблемы ў нас ёсць і мы спрабуем іх вырашаць. У цяперашні час удасканальваецца і сама картка, і яе тэхнічнае забеспячэнне, г. зн. і кадзіравальныя і счытвальныя ўстройствы. Над гэтым працуюць два інстытуты — НДІ прыборабудавання і НДІ ЭВМ. Ва ўсякім разе, шляху назад ужо не будзе.

***— З увядзеннем пластыкавых праязных дарога стала абыходзіцца і без таго маламаёмнаму пасажыру на 10 тысяч рублёў даражэй (такая залогавая цана карткі). Ці не збіраецеся вы выкарыстаць вопыт вашых калег з Санкт-Пецярбурга і закупляць імпартныя пластыкавыя карткі, сабекошт якіх у 3 разы меншы за айчынныя, а якасць значна вышэйшая?***

— Залогавая цана неабходна для захавання карткі і яе вяртання, і плаціцца яна толькі адзін раз. Цяпер у нас яшчэ няма неабходнай колькасці пластыкавых картак, таму мы ўводзім іх паэтапна. Пакуль мы не плануем выкарыстоўваць пластыкавыя праязныя імпартнай вытворчасці: пры рабоце на нашай апаратуры яны таксама даволі хутка псуюцца. Але калі сваіх праязных не будзе хапаць, тады прыйдзецца іх закупляць...

Ў бліжэйшы час мы не збіраемся выводзіць з абарачэння папяровыя дэкадныя праязныя.

***— Вы сцвярджаеце, што пластыкавы праязны падрабіць немагчыма, што, вядома, будзе ратаваць транспартнікаў ад няўплаты за праезд. А наколькі ён абаронены, напрыклад, ад размагнічвання?***

— На жаль, даводзіцца канстатаваць недастатковую абароненасць нашай карткі ад размагнічвання, якое адбываецца пад уздзеяннем моцных электрамагнітных палёў. Так, у жніўні да нас звярнуліся са скаргамі жанчыны, у якіх пластыкавыя праязныя захоўваліся ў кішэньках італьянскіх сумак з магнітным замком. Размагніціць картку могуць таксама і ключы. Усяго за апошні месяц да нас паступіла 32 скаргі пасажыраў на размагнічванне карткі.

***— Якія меры кампенсацыі прадугледжаны ў выпадку тэхнічнай няспраўнасці набытага пластыкавага праязнога? Куды ў такім выпадку можа звярнуцца пасажыр і што можа быць падставай для такіх дзеянняў?***

— Пры рэалізацыі пластыкавых праязных яны абавязкова правяраюцца на ўстройстве перадпрадажнай праверкі. Але калі картка ўсё ж такі не спрацавала, пасажыр можа звярнуцца ў лабараторыю ўпраўлення Мінскага метрапалітэна па адрасу: прасп. Ф. Скарыны, 6, пак. 107, дзе выяўляецца прычына яе пашкоджання. Калі гэта пашкоджанне механічнае (картка зламаная), то за замену праязнога яго залогавая цана (10 тыс. руб.) спаганяецца з пасажыра паўторна. Калі ж выяўляецца, што размагнічванне адбылося не па віне пасажыра, то адразу ж на месцы адбываецца бясплатная замена карткі.

**Гутарку вяла Надзея НІКАЛАЕВА.**

# БУДЗЕ ЯШЧЭ АДЗІН УСЕБЕЛАРУСКІ КАНГРЭС

9 верасня быў утвораны арганізацыйны камітэт Усебеларускага кангрэса ў абарону Канстытуцыі супраць дыктатуры. Яго ўзначаліў адстаўны міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, а сустаршынямі абраны вядомыя ў Беларусі палітыкі Генадзь Бураўкін, Аляксандр Бухвостаў, Генадзь Карпенка, Георгій Таразевіч.

У аргкамітэт кангрэса ўвайшлі практычна ўсе партыі, якія ўдзельнічаюць у «круглым стале», грамадскія арганізацыі, вядомыя дзеячы палітыкі, культуры, мастацтва. Кангрэс намечана правесці 26 кастрычніка.

Такім чынам, мы можам стаць сведкамі двух процілеглых масавых форумаў у наступным месяцы. Па меры набліжэння даты рэферэндуму сітуацыя становіцца ўсё больш складанай і непрадказальнай.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Сала з бульбай гучна «заяўляюць» аб сабе цаной

**Рознічныя цэны на харчовыя тавары на Камароўскім рынку г. Мінска на 10.09.96 г.:**

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Мяса (кг):** | | **Яйкі** хатнія | 16—18 | бульба | 2,5—4 |
| свініна | 36—75 | **Алей** | 17—19 | пятрушка | 20—25 |
| ялавічына | 30—55 | **Цукар** | 8,4—9,6 | кроп | 15—25 |
| бараніна | 30—60 | **Мёд** | 70—80 | **Садавіна (кг):** | |
| цяляціна | 30—65 | **Агародніна (кг):** | | персікі | 22—35 |
| куры | 33—37 | капуста | 3—6,5 | вінаград | 12—40 |
| **Сала** свежае | 32—42 | морква | 4—7 | кавуны | 4—8 |
| Сала салёнае | 35—55 | агуркі | 9—12 | дыні | 6—15 |
| **Малочныя прадукты:** | | таматы | 13—20 | слівы | 6—10 |
| малако (л) | 4—8 | перац салодкі | 13—20 | апельсіны | 12—16 |
| тварог (кг) | 18—25 | баклажаны | 15—20 | лімоны | 21—30 |
| смятана | 20—30 | кабачкі | 1,5—3 | бананы | 13—20 |
| масла | 40—48 | цыбуля зялёная | 30—50 | **Кветкі (шт.):** | |
| **Яйкі** птушкафабрыкі | 8,6—11,2 | цыбуля рэпчатая | 5—7 | ружы | 6—30 |
| | | | | гваздзікі | 2—8 |

Пік зялёнага «сезона» на харчовых рынках краіны, здаецца, мінуў. Восень уносіць тут свае карэктывы: цэны на таматы, агуркі, салодкі перац і зяленіва імкліва папаўзлі ўверх.

Зноў, як і ў зімовы час, паўднёвыя садавіна і агародніна становяцца больш даступнай для беларускага пакупніка, чым айчынная. Нават добры ўраджай бульбы не можа «збіць» на яе цану на Камароўцы. На імправізаваных міні-базарах побач са сталічнымі універсамамі або непасрэдна ў вёсках жадаючым запасціся на зіму «другім хлебам» бульба абыдзецца танней на 2—2,5 тыс. рублёў.

Яшчэ засмучае той факт, што такое любімае беларусамі сала «фліртаваць» з пакупнікам зусім не мае намеру: цэны на яго ўжо амаль дагналі цэны на свініну, а таму, магчыма, хутка многім прыйдзецца адмаўляцца ад нацыянальнага «далікатэсу».

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## *«МАСКОЎСКІ ПЕГАС»*

**• ЗНАЧНАЯ ПАДЗЕЯ Ў КУЛЬТУРНЫМ ЖЫЦЦІ РАСІЙСКАЙ СТАЛІЦЫ АДБЫЛАСЯ Ў ПЕРШЫ ТЫДЗЕНЬ ВЕРАСНЯ**

Заўтра завяршаецца штогадовы кінафестываль «Маскоўскі Пегас», прысвечаны паказу новых работ сталічных кінематаграфістаў. Увесь тыдзень на ім дэманстраваліся не толькі мастацкія стужкі, але і дакументальныя, іграв ыя. Адначасова праходзілі і творчыя вечары вядомых майстроў кінематографа — А. Смірнова, стужцы якога «Беларускі вакзал» споўнілася 25 гадоў, Р. Чухрая, С. Самсонава і іншых ветэранаў савецкага кіно. Будзе і прэм'ера — кінафільм Г. Байсака «Агапэ». Яго масквічы ўбачаць заўтра — у заключны дзень свята маскоўскага кіно.

**• ЗАМОК НЕ ПА ЗУБАХ ЗЛАДЗЕЯМ**

Аб вялізным размаху крадзяжоў на чыгунцы шмат гаварылася на працягу дзесяцігоддзяў. Кралі не толькі ў вагонах, але і цэлымі вагонамі.

І раптам сенсацыя апошніх дзён. На Маскоўскім чыгуначным вузле за апошнія паўгода амаль у пяць разоў зменшылася колькасць крадзяжоў з таварных вагонаў. А гэта — кругленькая сума, якая вылічаецца ў мільярдах рублёў і якой дастаткова, каб адзін раз акупіць усе затраты на ўкараненне новай методыкі пламбіравання вагонаў. Невялікі і недарагі па цане замок, названы «Спрутам», аказаўся не па зубах шматлікім аматарам нажывы.

Справа ў тым, што на выдаленне пломбы патрэбна намаганне, якое неабходна прыкласці для таго, каб падняць трохтонны цяжар. Такіх асілкаў сярод чыгуначных зладзеяў пакуль што няма.

**• ЗА ШТО РАСПРАВІЛІСЯ З СУДДЗЁЙ?**

Спіс ахвяр гвалтоўнай смерці сярод суддзяў адкрыты нядаўна ў адным з міжмуніцыпальных судоў Масквы.

На 28-гадовую суддзю ўчыніў напад інвалід другой групы, якому напярэдадні быў прысуджаны штраф у суме 37 тысяч рублёў за продаж «злачынцам» дзіцячага адзення ў непрызначаным для таго месцы. У бедака, які рабіў свой невялікі бізнес, каб не памерці з голаду, рашэнем суддзі былі канфіскаваны нават дзіцячыя курткі, якія інвалід прадаваў на вуліцы. Пакрыўджаны штрафнік пырнуў суддзю нажом. Рана аказалася смяротнай. Злачынца сам здаўся ўладам.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ.**

## *ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ*

Ці трэба кіруючую жанчыну рабіць кіруючым мужчынам? Трэба, вырашылі ў Бангладэш. Канцылярыя цяперашняга кіраўніка бангладэшскага ўрада Хасіны Вазед афіцыйна паведаміла аб яе жаданні, каб да яе звярталіся не «спадарыня прэм'ер-міністр», а выключна з павагай — «сэр». Яна растлумачыла, што займае ўсе кіруючыя пасады. Пасада ж заўсёды мужчынская. А таму вы звяртаецеся не да Хасіны, а да яе пасады. Бачыце, як усё проста. Але, галоўнае, — з павагай. Гэта павінна дабратворна паўплываць на паспяховае кіраванне дзяржавай.

***ІТАР-ТАСС.***

*Ці ведаеце вы, наколькі любяць амерыканкі? Аказваецца, не вельмі. Спецыяльнае сацыялагічнае даследаванне, якое праводзіцца 11-ы год запар, высветліла, што 60 працэнтаў амерыканак думаюць пра грошы болей, чым пра секс. Магчыма, гэта тлумачыцца і тым, што там, дзе мужчына зарабляе долар, амерыканка зарабляе ўсяго 76 цэнтаў. Да таго ж 24 працэнты амерыканак упэўнены, што іх краіна хутка сутыкнецца з перыядам спаду. Карацей, спачатку лепш грошы.*

***ІТАР-ТАСС.***

Не зможа нябожчык у моргу закрытага горада атамшчыкаў Азёрска абысціся без бутэлькі гарэлкі. Пабудаванае тры дзесяцігоддзі таму паталагаанатамічнае аддзяленне даўно не спраўляецца з колькасцю нябожчыкаў. Некаторыя з іх не ўваходзяць у халадзільныя камеры і чакаюць пахавання ў вестыбюлі. Каб цела не гніло, яго пакрываюць прасцінай, намочанай у гарэлцы.

***ЕАН.***

## *АРГАНІЗАВАНАЯ ЗЛАЧЫННАСЦЬ*

# Вучыцца, вучыцца і вучыцца... барацьбе з мафіяй

**16—18 верасня ў Мінску пад эгідай Савета Еўропы адбудзецца міжнародны семінар па праблемах барацьбы з арганізаванай злачыннасцю.**

Мяркуецца, што ў гэтым форуме прымуць удзел прадстаўнікі 15 краін. Асноўная ўвага на семінары будзе ўдзелена праблеме барацьбы з мафіяй у дзяржавах Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. У прыватнасці, прадстаўнікі праваахоўных органаў, вучоныя з Беларусі, Германіі, Францыі, Італіі, Фінляндыі, Расіі выступяць з навуковымі дакладамі, падчас дыскусій падзеляцца канкрэтным вопытам процідзеяння наркабізнесу, кантрабандзе крадзенай маёмасці, адмыванню грошай, банкаўскаму махлярству і карупцыі.

Тое, што еўрапейская супольнасць занепакоена імклівым ростам арганізаванай злачыннасці ў краінах былога «сацыялістычнага лагеру», добра зразумела. Злачынная навала з Усходу нясе рэальную пагрозу ўсім заможным краінам Старога Свету. Прычым мафіёзныя кланы з былых сацыялістычных краін даўно знайшлі агульную мову са сваімі «калегамі» з Заходняй Еўропы, і процістаяць ім можна толькі агульнымі намаганнямі ўсіх еўрапейскіх дзяржаў, адкінуўшы ўбок усе палітычныя амбіцыі. Ад такога супрацоўніцтва, несумненна, выйграюць усе еўрапейскія краіны. Таму зусім заканамерна, што маючаму адбыцца семінару ўдзяляецца вялікая ўвага.

З беларускага боку ў ім прымуць удзел кіраўнікі ўсіх ведамасных падраздзяленняў па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй, а таксама прадстаўнікі парламенту, урада, Адміністрацыі Прэзідэнта, Міністэрства замежных спраў, Мінфіна, прэзідэнцкай Службы кантролю.

Дарэчы, тым, хто знаходзіцца на пярэднім краі барацьбы з мафіяй, гэты семінар, на думку арганізатараў, дасць магчымасць не толькі паглыбіць свае тэарэтычныя веды, пераняць вопыт калег, але і дапаможа ў раскрыцці канкрэтных крымінальных спраў. Бо ні для кога не сакрэт, што асабістыя кантакты, наладжаныя паміж прадстаўнікамі праваахоўных органаў падчас такіх форумаў, значна больш эфектыўныя, чым усе міждзяржаўныя дамовы. Чакаецца таксама, што па выніках семінара будзе прынята рэзалюцыя па ўмацаванню міжнароднага супрацоўніцтва ў сферы барацьбы з арганізаванай злачыннасцю.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

## *ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ*

**ЧАЧНЯ: ПАЛІТЫКІ СПРАЧАЮЦЦА, БАЕВІКІ ПЕРАГРУПОЎВАЮЦЦА**

У Чачні праходзіў з'езд палітычных партый і грамадскіх рухаў рэспублікі, на якім абмяркоўваліся пытанні фарміравання кааліцыйнага ўрада. Аляксандр Лебедзь у звароце, які ён накіраваў удзельнікам з'езда, падкрэсліў, што Барыс Ельцын станоўча ацаніў зроблены ў апошні час захады па завяршэнню баявых дзеянняў і працягу перамоўнага працэсу ў Чачні. Сам Лебедзь, які, як меркавалася, асабіста павінен быў удзельнічаць у рабоце з'езда, пасля сустрэчы ў панядзелак з Віктарам Чарнамырдзіным адмяніў сваю паездку ў рэспубліку. Афіцыйны ўрад Доку Заўгаева ацаніў з'езд палітычных партый і рухаў як спробу сепаратыстаў стварыць незаконныя структуры ўлады для вываду Чачні з саставу Расіі.

У той час, паводле аператыўных даных расійскіх вайскоўцаў, атрады ўзброенай апазіцыі ў некаторых раёнах Чачні праводзяць перагрупоўку сіл. Прадстаўнікі штаба федэральных сіл у Чачні назвалі выбухованебяспечным становішча ў Гудэрмесе. Па іх даных, у гэты горад з'ехаліся баевікі Радуева і яшчэ двух-трох палявых чачэнскіх камандзіраў. Планы баевікоў пакуль невядомы. Расійскія ваенныя таксама адзначылі перагрупоўку сіл у некаторых раёнах Грознага. Там заўважана 700—800 апалчэнцаў. У іх акрамя стралковай зброі ёсць бронемашыны, два танкі, мінамёты і зенітныя ўстаноўкі. Паводле некаторых даных, колькасць байцоў узброенай апазіцыі, падкантрольных Аслану Масхадаву, складае ад 5 да 6 тысяч чалавек.

**САДАМ ХУСЕЙН ЗНЯЎ ЭМБАРГА З КУРДЫСТАНА І АБВЯСЦІЎ АМНІСТЫЮ**

Пасля таго, як праіракская дэмакратычная партыя Курдыстана ўзяла пад кантроль практычна ўсю тэрыторыю Іракскага Курдыстана, прэзідэнт Ірака Садам Хусейн паведаміў пра сваё рашэнне адмяніць эмбарга, якое навязаў курдскім раёнам поўначы краіны яшчэ ў 1991 годзе. Садам Хусейн вырашыў таксама амнісціраваць усіх актывістаў курдскай апазіцыі за выключэннем тых, хто ўчыніў такія злачынствы, як згвалтаванне, забойства дзяржаўных служачых ці крадзеж дзяржаўнай маёмасці.

**ЕЛЬЦЫН УПЭЎНЕНЫ Ў АЙЧЫННЫХ СПЕЦЫЯЛІСТАХ-МЕДЫКАХ**

Дата аперацыі, якая павінна быць зроблена прэзідэнту Расіі Барысу Ельцыну, стане вядома ў бліжэйшы час. Паводле слоў першага намесніка дырэктара крамлёўскага дыягнастычнага цэнтра Пярова, пакуль дакладна вядома толькі тое, што аперацыя адбудзецца ў канцы верасня. Пяроў абверг паведамленне аб тым, што аперацыю будуць рабіць нямецкія, а не расійскія ўрачы.

**УРАДАВЫЯ ВОЙСКІ АФГАНІСТАНА ПЕРАЙШЛІ Ў НАСТУПЛЕННЕ**

Афганскія ўрадавыя войскі занялі горад Джалалабад на ўсходзе краіны і ствараюць рубяжы абароны супраць наступлення атрадаў апазіцыйнага руху «Талібан». Ваенная авіяцыя наносіць удары па пазіцыях талібаў. Пад кантроль узяты аэрапорт і аўтамагістраль, якая вядзе ў Пакістан. Раней паведамлялася, што атрады талібаў занялі два буйныя населеныя пункты недалёка ад Джалалабада і перамясціліся на адлегласць 30 кіламетраў ад горада.

**МІНІСТР АБАРОНЫ РАСІІ СУСТРЭНЕЦЦА З ПРАДСТАЎНІКАМІ НАТО**

Міністр абароны Расіі Радзівонаў прыняў запрашэнне ўдзельнічаць у неафіцыйнай сустрэчы міністраў абароны краін—членаў НАТО, якая адбудзецца 25—26 верасня ў Нарвегіі. Чакаецца, што галоўная ўвага на перамовах будзе ўдзелена планам пашырэння НАТО на Усход і яго супрацоўніцтву з Расіяй. Нагадаем, што Масква катэгарычна супраць плануемага набліжэння НАТО да расійскіх межаў.

**ЯШЧЭ АДЗІН КРОК ДА ЎСЕАГУЛЬНАГА ЯДЗЕРНАГА РАЗЗБРАЕННЯ**

Генеральная Асамблея ААН пераважнай большасцю галасоў адобрыла дагавор «Аб усеагульнай і поўнай забароне ядзерных выпрабаванняў». «За» прагаласавалі 158 краін. Дагавор з'яўляецца важным крокам да сусветнага ядзернага раззбраення. Спецыялісты адзначаюць, што хоць дагавор будзе лічыцца несапраўдным без подпісу Індыі, тым не менш, рашэнне Генеральнай Асамблеі прымусіць прытрымлівацца забароны на ядзерныя выпрабаванні нават тыя краіны, якія не далучыліся да дагавора.

***Паводле паведамленняў радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё Расіі» і «Радыё-РОКС».***

**Адам МАЛЬДЗІС — вядомы беларускі літаратуразнавец і крытык, грамадскі дзеяч. Доктар філалагічных навук. Ён з'яўляецца дырэктарам Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны пры Міністэрстве адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь, а таксама прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў. З ім гутарыць журналістка Таццяна АНТОНАВА.**

## АДАМ МАЛЬДЗІС:
# «САМАЯ ВЯЛІКАЯ БЯДА БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСТВА Ў ТЫМ, ШТО ЯНО ЎСЁ БОЛЬШ РАСКОЛВАЕЦЦА»

### 1. ЧАМУ Ў БЕЛАРУСІ ТАК НЕАДЭКВАТНА СТАВЯЦЦА ДА СЛОВА «НАЦЫЯНАЛЬНЫ»

**— Адам Іосіфавіч, я хацела б пагаварыць з вамі аб праблемах Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францыска Скарыны, дырэктарам якога вы з'яўляецеся, і праблемах нашага грамадства, бо беларусазнаўства — ваш профіль. Тым больш, што і нагода з'явілася — сёлета восенню цэнтр адзначае сваё пяцігоддзе.**

— Ідэя стварэння такога цэнтра нараджалася доўга і пакутліва ў нетрах той сістэмы, якую мы сёння называем развітым сацыялізмам. Штуршок быў дадзены ў час падрыхтоўкі да святкавання 500-годдзя з дня нараджэння Скарыны. Толькі ў пачатку 90-х гадоў Прэзідыум Акадэміі навук Беларусі прыняў пастанову аб стварэнні нацыянальнага цэнтра.

**— Аднак і ў сценах Акадэміі навук вы не знайшлі ўзаемаразумення?**

— У Акадэміі навук кожны інстытут працуе на сваёй дзялянцы і не дужа хоча ведаць, што там у суседзяў... Як было раней у Інбелкульце? Там усё разглядалася комплексна. Галоўным аб'ектам было беларусазнаўства, беларускі народ, народазнаўства. Каб працаваць у падобным кірунку, трэба аб'яднаць спецыялістаў самых розных галін. Наш цэнтр якраз глядзеў на свае даследаванні комплексна. І гэта выклікала несупадзенне інтарэсаў цэнтра і акадэміі. Нас пазбавілі фінансавання. І тады давялося шукаць дах над галавой.

**— І дзе вы яго знайшлі?**

— Нас прытуліла Міністэрства адукацыі. Але і яму не імпанавала навуковая скіраванасць цэнтра. Ад нас чакалі прыкладных даследаванняў. А мы займаліся гісторыяй і тэорыяй культуры, гісторыяй беларускай дыяспары, беларусазнаўствам у шырокім сэнсе слова. І толькі калі Мінадукацыі стала Міністэрствам адукацыі і навукі, мы нарэшце адчулі, што мы патрэбныя.

**— Цяпер вы знаходзіцеся ў будынку па вуліцы Рэвалюцыйнай, дзе некалі пачыналася беларуская навука, тут месціўся Інбелкульт і Акадэмія навук Беларусі. Але сам будынак у такім непрэзентабельным выглядзе, што ў мяне зноў напрошваецца пытанне: «У нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны зноў праблемы?»**

— Так. Вядома, мы вельмі задаволены, што знаходзімся ў гістарычным будынку. Але ён сам у катастрафічным становішчы. Падае на тратуар цэгла, працякае дах. Нам дасюль не аддадзены трэці паверх, хаця па гэтым пытанні ўжо некалькі разоў прымаліся рашэнні гарвыканкома. Там і дасюль знаходзіцца пракуратура Фрунзенскага раёна, бо не адрамантаваны дом, куды яна павінна пераехаць.

Наш будынак, які з'яўляецца гарадской камунальнай уласнасцю, ніхто рамантаваць не збіраецца — няма на гэта грошай. Але ж ён у архітэктурным плане мае каштоўнасць. Чаму яго не ўзяла пад сваю ахову дзяржава — я не разумею. Мне бывае сорамна за дзяржаву, калі ўсю гэту занядбанасць бачаць замежныя вучоныя, пісьменнікі, журналісты, грамадскія дзеячы, якія бываюць у нас. Дыскрэдытуецца само паняцце «нацыянальны цэнтр». У 1993 годзе я пабываў у Славакіі на чарговым Міжнародным кангрэсе славістаў. І быў уражаны 15-павярховым будынкам іх нацыянальнага цэнтра — «Маціцы славацкай». А гэта дзяржава, дарэчы, атрымала незалежнасць адначасова з Беларуссю. У іх нацыянальным цэнтры сканцэнтравана ўся бібліяграфічная служба, выдаюцца тамы Славацкага біяграфічнага слоўніка. А мы пакуль што асілілі толькі шасцітомны бібліяграфічны слоўнік беларускіх пісьменнікаў. А трэба ўжо мець нам беларускі біяграфічны слоўнік, куды павінны ўвайсці ўсе беларусы, вартыя нашай памяці.

### 2. ЗДАБЫТКІ І СТРАТЫ

**— Я ведаю, што з-за няпоўнага фінансавання цэнтра ўсяму калектыву летам на цэлы месяц давялося ісці ў вымушаны водпуск за свой кошт. Як вы выжываеце ў такіх складаных эканамічных умовах?**

— Нам цяжка. Адзін са шляхоў выжывання: мы спалучаем рэзервы цэнтра і Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў, прэзідэнтам якой я з'яўляюся. Асацыяцыя беларусістаў аб'ядноўвае каля 700 вучоных у 23 краінах, якія глядзяць на беларускую праблематыку нібы збоку. І гэты погляд часам бывае вельмі канструктыўным. Напрыклад, беларусіст з Германіі Райнер Лінднер паглядзеў на спрэчкі нашых гісторыкаў і прыйшоў да высновы, што адно і другое пакаленне беларускіх вучоных дзейнічае з адных і тых жа метадалагічных пазіцый. Толькі слова «сацыяльнае» заменена на слова «нацыянальнае». А сапраўднага навуковага аналізу яшчэ няма. Вось і атрымліваецца, што ідзе процістаянне дзвюх палярнасцей.

**— Раскажыце, калі ласка, пра тых людзей, што працуюць цяпер у цэнтры.**

— Я не сказаў бы, што цалкам удалося сфарміраваць той калектыў, які павінен быць у такім цэнтры. З-за фінансавых цяжкасцей нас пакінулі людзі, якія былі сапраўдным упрыгажэннем цэнтра — Вячаслаў Рагойша, Алесь Жлутка, многія іншыя. Сп. Жлутка, прынамсі, адзіны сапраўдны спецыяліст па лацінскай літаратуры і мове ў Беларусі. Засталіся найбольш стойкія: доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, доктар філалагічных навук Генадзь Цыхун, аддзел беларусазнаўства ўзначальвае Захар Шыбека. Яшчэ адна асоба, якая актыўна працуе на цэнтр, — Віталь Зайка. Ён гебраіст. Дарэчы, гэты чалавек — фізік па адукацыі, ён працаваў у свой час на атамным рэактары... Але пасля паглыбіўся ў вывучэнне яўрэйскай культуры, ведае ідыш, іўрыт, японскую мову. Віталь Зайка часта працуе ў замежных архівах, яго ўсюды запрашаюць як высакакласнага спецыяліста. Вядома ж, і яго паездкі, і паездкі іншых супрацоўнікаў цэнтр не можа фінансаваць. Але тое, што нашы спецыялісты маюць такія стажыроўкі за кошт замежнага боку, сведчыць пра аўтарытэт цэнтра, пра навуковы ўзровень яго спецыялістаў. Нягледзячы ні на што, калектыў склаўся, можна працаваць. Хаця раз'яднальныя тэндэнцыі ёсць. У цяжкія часы людзі становяцца большымі індывідуалістамі, кожны думае найбольш пра свае інтарэсы.

**— Акрэсліце асноўныя накірункі дзейнасці цэнтра.**

— Я ўжо казаў, што мы бяром прыклад з аналагічных нацыянальных цэнтраў іншых краін. Калі казаць пра асноўны накірунак, то гэта беларусазнаўства ў шырокім сэнсе гэтага слова: сувязі міжнацыянальныя, міжканфесіянальныя, паміж краінамі і народамі. Сувязі паміж культурамі. Навуковая тэрміналогія па ўсіх напрамках. І, безумоўна, інфармацыйнае забеспячэнне. Мы выходзім на камп'ютэрны ўзровень. Нацыянальны навукова-асветны цэнтр імя Францыска Скарыны — адзінае месца, дзе сёння можна атрымаць інфармацыю пра беларуска-іншанацыянальныя сувязі. Дадам: па кожнай краіне, па кожнаму напрамку гуманітарных даследаванняў. Краязнаўчыя матэрыялы (краязнаўства як навука нідзе не распрацоўваецца. — **Т. А.**), па гісторыі беларускай дыяспары. Што датычыцца апошняй тэмы, то нас абавязвалі яе даследаваць, калі праграма «Беларусы ў свеце» была дзяржаўнай. Але на яе рэалізацыю, тым не менш, нам не было выдзелена грошай. На грамадскіх пачатках сабраны багаты матэрыял. Магчыма, удасца зрабіць даведнік «Беларускае замежжа», дзе было б усё пра беларусаў. Ад Сібіры да Аргенціны. Ужо падрыхтаваны том па гісторыі праваслаўя на Беларусі — гэта гатовая апора для ўсіх, хто займаецца культурай. Рыхтуем том па гісторыі уніяцтва. Усё гэта вельмі патрэбныя кнігі. Многія нашы рэлігійныя праблемы, канфлікты заснаваны на няведанні матэрыялу, на няведанні гісторыі хрысціянства на Беларусі.

**— У бюлютэні «Кантакты і дыялогі», які выдаецца беларусістамі, сістэматычна друкуюцца матэрыялы, што ўвойдуць потым у даведнік «Беларускае замежжа»...**

— Так. Але выдаецца бюлютэнь з вялікімі цяжкасцямі. Беларусісты — людзі небагатыя. На беларускай культуры яшчэ ніхто на маёнткі не зарабіў. Падпісчыкаў у часопіса таксама небагата, хаця і цана ў яго невялікая. Я баюся, што мы дыхаем на ладан з гэтым выданнем.

**— Вы пачалі супрацоўнічаць з Дзяржкамітэтам па друку Рэспублікі Беларусь па стварэнню інфармацыйнага банка. Раскажыце, што з гэтага атрымліваецца.**

— Было шкада, што банкам інфармацыі, створаным цэнтрам, мала карыстаюцца грамадзяне Беларусі. Бывае, што нашы вучоныя, даследчыкі нярэдка шукаюць сякеру пад лаўкай... Праблема ў тым, што ўся гэта інфармацыя захоўваецца ў выразках або на картках, а яе трэба ўвесці ў камп'ютэры. Думаю, што супрацоўніцтва з Дзяржкамдрукам дасць плён. Дадам, што наш банк даных актыўна папаўняецца беларусістамі. А гэта вялікая патэнцыяльная сіла. На жаль, беларусісты ў апошні час пачалі ад нас адыходзіць. Прывяду прыклад прафесара Джыма Дынглі з Англіі, які мусіў заняцца ўкраінскай філалогіяй. Бо ў яго краіне рэзка ўпала цікавасць да Беларусі ў сэнсе гістарычным, культурным. Засталася толькі ў палітычным. І гэтак адбываецца ў іншых краінах. Я ўспрымаю такую тэндэнцыю як вельмі негатыўную.



*НА ЗДЫМКУ: Адам МАЛЬДЗІС (справа) з прафесарам Гродзенскага універсітэта Іванам КРЭНЕМ.*

### 3. А З НАМІ АДБЫВАЕЦЦА ВОСЬ ШТО...

**— Адам Іосіфавіч, вы ўжо не першы год займаецеся беларусазнаўствам. Безумоўна, кожны, хто нарадзіўся і жыве ў Беларусі, упэўнены, што ён ведае Беларусь. Хаця я думаю, што вы, як даследчык, спасціглі такія глыбіні, ад якіх, пэўна, аж дух займае. Дык што ж такое Беларусь сёння, на вашу думку? У якім ракурсе вам бачацца асноўныя праблемы беларускага грамадства?**

— У нашым грамадстве няма паразумення — яно расколваецца як у палітычных, так і ў нацыянальных, рэлігійных арыентацыях. Не знаходзяць агульнай мовы нават навукоўцы. Гэты раскол, я лічу, можа кепска скончыцца для краіны. Я баюся ўжываць выраз «Баснійскі сіндром» у адносінах да сваёй, здавалася б, ціхай Беларусі. З-за чаго адбыўся трагічны канфлікт паміж Сербіяй і Харватыяй? Адна мова, адны карані, але адны карыстаюцца лацінкай, другія — кірыліцай, адны — праваслаўныя, другія — католікі. У нас апошнім часам фактычна таксама павялічваецца процістаянне, падкрэслю спецыяльна — штучнае процістаянне Усходу і Захаду. Таму што унікальнасць Беларусі і яе лёсу якраз у тым і заключаецца, што яна знаходзіцца на мяжы двух вялікіх макрарэгіёнаў — Заходняга і Усходняга. Таму традыцыі тут перакрыжоўваюцца, узаемадапаўняюцца і ўзаемаўзбагачаюцца. Дык можа тое, што заўсёды традыцыйна лічыцца нашай слабасцю, з'яўляецца нашай асаблівасцю, нашай самабытнасцю? На Другім міжнародным кангрэсе беларусістаў выступаў прафесар Бруна Дрвескі з Парыжа. Ён выказаў думку, што калі б рускія ўплывы не ўраўнаважваліся польскімі, то Беларусь даўно б русіфікавалася. А калі б было наадварот, то Польшча паланізавала б Беларусь. Хіба ён не мае рацыі?

Сапраўды, можа Беларусі наканаваны унікальны лёс, калі пры належным, разумным усведамленні выкарыстаць тое, што наша краіна знаходзіцца ў цэнтры Еўропы? Але кадраў, сіл, грошай на такія даследаванні ў нацыянальнага цэнтра няма.

**— Адам Іосіфавіч, я хачу працытаваць нядаўна сказанае вамі: «Акрамя эканамічнага, духоўнага, Беларусь перажывае і моўны крызіс. Беларусь становіцца бязмоўнай краінай. У маім разуменні, у Беларусі трэба абараняць усе мовы». Патлумачце, калі ласка, што вы мелі на ўвазе.**

— Пераважная большасць беларусаў толькі думае, што яны добра ведаюць рускую, польскую ці беларускую мовы. Паслухайце, на якой мове размаўляе вуліца! На якой — моладзь! Відаць, у свой час мы зацыкліліся на адна- і двухмоўі, а трэба казаць пра шматмоўе. У Беларусі традыцыйна існавала шматмоўе, паколькі жылі розныя нацыі. Мяне часам здзіўляе, чаму мы болей гаворым пра двухмоўе, трэба казаць пра полілінгвізм у Беларусі — так, як і ва ўсёй Еўропе. Фактычна ж большасць беларусаў, горад цалкам размаўляе на трасянцы, мата-трасянцы, я дадаў бы. Я ішоў аднойчы следам за дэпутатамі нашага парламента і чуў, як яны размаўлялі. Гэта ж жах! І сведчыць пра тое, што моўны крызіс вельмі глыбокі, як і маральны. Чаму? Таму што новыя ідэалы ў грамадстве яшчэ не сфарміраваны, цьмяна акрэсленыя, а старыя — выцвілі, згубілі прывабнасць. Вацлаў Гавел параўнаў гэты стан са станам чалавека, які выйшаў з турмы і не ведае, у якім накірунку яму ісці.

Наш цэнтр хоча звярнуць увагу на гэту праблему. У сярэдзіне кастрычніка збіраемся правесці канферэнцыю на тэму «Грамадскія ідэалы» ў Беларусі.

**— Я вам удзячная за гутарку. Спадзяюся, што ваша асабістая праца на ніве беларушчыны, а таксама і вашых калег прыдасца ў справе пабудовы дзяржавы, дэмакратычнага грамадства.**

# РАКАЎСКІЯ ЧЫТАННІ

Тэматычныя рэспубліканскія навуковыя канферэнцыі, якія атрымалі назву чытанняў, са сталічнага, абласнога і раённага ўзроўню ўпершыню... не, не апусціліся — падняліся на сельскі! Пасля мінскіх, гродзенскіх, навагрудскіх, карэліцкіх і іншых — у Валожынскім раёне праведзены Ракаўскія чытанні.

Ракаў здаўна славіцца не толькі працоўнымі, але і культурнымі традыцыямі. З мястэчкам сваім жыццём і дзейнасцю звязаны такія вучоныя і пісьменнікі, як Мар'ян і Казімір Здзяхоўскія, Кастусь Стахоўскі, Уры Фінкель, сюды да Здзяхоўскіх слаў лісты Леў Талстой, прыязджала Эліза Ажэшка і інш. Зрэшты, Ракаў ледзь не стаў месцам нараджэння Янкі Купалы: тут незадоўга да нараджэння песняра арандавалі кавалак зямлі ягоныя бацькі...

Альбо возьмем сённяшні дзень. У Ракаве нарадзіліся, вучыліся, жылі (або нават жывуць і цяпер) сябры Саюза пісьменнікаў Беларусі Таццяна Кабржыцкая, Іван Клімянкоў, Марыя Шаўчонак, Язэп Янушкевіч, вядомыя мастакі браты Валерый і Фелікс Янушкевічы і інш. Менавіта некаторыя з іх, не шкадуючы сіл і часу, без аніякай матэрыяльнай падтрымкі збоку, арганізавалі і правялі навуковыя чытанні, прысвяціўшы іх Дню беларускага пісьменства і друку.

Што ж пачулі зацікаўленыя мястачкоўцы, у тым ліку старшакласнікі Ракаўскай сярэдняй школы? (На яе базе і адбываліся чытанні.)

Старшы навуковы супрацоўнік Акадэміі навук Беларусі, кандыдат гістарычных навук В. Шаблюк расказаў пра вынікі археалагічных раскопак у Ракаве летам гэтага года, мясцовы настаўнік гісторыі В. Нялецкі — пра развіццё народнай адукацыі і асветы на Ракаўшчыне, настаяцель Ракаўскай Праабражэнскай царквы айцец Віктар — пра хрысціянскую мараль, духоўнасць і асвету ў дзейнасці Ракаўскага праваслаўнага брацтва на пачатку XX ст.; акадэмік жывапісу Ф. Янушкевіч — пра Ракаўска-Івянецкую кераміку. Дацэнт Беларускага дзяржаўнага універсітэта Т. Кабржыцкая прыгадала эпізоды пабывак у Ракаве Уладзіміра Караткевіча, які ўсім сэрцам палюбіў мястэчка, хацеў у яго ваколіцах набыць дачу.

Кандыдат філалагічных навук Я. Янушкевіч выступіў з дакладам «Ракаў на старонках «Нашай нівы» (1906—1915). Аўтар гэтых радкоў засяродзіў увагу прысутных на жыцці, настаўніцкай і літаратурнай дзейнасці У. Фінкеля (дарэчы, у верасні гэтага года спаўняецца 100 гадоў з дня яго нараджэння)...

Першыя Ракаўскія чытанні (а яны будуць працягвацца і далей) прайшлі з поспехам. Цяпер з вынікамі чытанняў знаёмяцца (праз раённы друк і радыё) жыхары Валожыншчыны. Хочацца спадзявацца, што гэтае пачынанне не застанецца незаўважаным. І культурнае, навуковае жыццё, нягледзячы ні на што, ажывіцца не толькі ў нашых гарадах, але і ў невялікіх сёлах.

**Вячаслаў РАГОЙША,
старшыня аргкамітэта Ракаўскіх чытанняў, доктар філалагічных навук.**

*ЭКСЛІБРЫС «ЗВЯЗДЫ»*

# ПАШЫРЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ КАСМІЧНАЙ ПРАСТОРЫ

***Савік Л. КОСМАС БЕЛАРУСА: Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта, асветніка, вучонага, патрыёта. — Мн.: Пейто, 1996. — 384 с., іл.***

Дасведчанаму, цікаўнаму да беларушчыны чытачу добра вядома імя беларуса Барыса Кіта. Грамадзянін Амерыкі, сусветна вядомы матэматык, фізік, доктар філасофскіх навук, акадэмік Міжнароднай акадэміі астранаўтыкі (Парыж), старэйшы сябар Амерыканскага астранаўтычнага таварыства... Спіс грамадскіх і навуковых характарыстык можна доўжыць. Вядомы беларусазнавец Вітаўт Кіпель у манаграфіі «Беларусы ў ЗША» заўважыў (у раздзеле «Беларусы ў іншых галінах інтэлектуальнае творчасці»): «Беларусы ва ўсім свеце могуць ганарыцца дасягненнямі прафесара Барыса Кіта, колішняга выкладчыка матэматыкі Віленскае беларускае гімназіі, а пазней прафесара многіх універсітэтаў на Захадзе, аднаго з вядучых амерыканскіх даследнікаў у ракетных палівах...»

Ужо раней чытачу добра вядомым быў нарыс Лідзіі Савік (аўтар — літаратуразнавец, цікаўны да гісторыі беларускай эміграцыі даследчык) «Вяртанне» ў падзагалоўку да якога выкладзена жанравае вымярэннне кнігі: «Жыццяпіс Барыса Уладзіміравіча Кіта». І вось — новая сустрэча са славутым земляком. І зноў жа дзякуючы Лідзіі Савік. У яе кнізе — «Космас беларуса», сапраўднай персаніфікаванай манаграфіі, нікольні не горшай, не меней захапляльнай, чым кнігі-партрэты з багатай маскоўскай серыі «Жизнь замечательных людей». На дваццаці друкаваных аркушах размясціліся не толькі тэкст, выкладзены Лідзіяй Савік, але і цікавыя, змястоўныя раздзелы — як бы дадатак да белетрызавана-публіцыстычнага распавяду пра Барыса Кіта. У прыватнасці, расказы самога вучонага-астранаўта, а таксама «Вершы, прысвечаныя Барысу Уладзіміравічу Кіту».

*Беларусам ды беларускам*
*Запрашаў*
*Неба думкі на дол.*
*...Як на Месяцы, пуста наўкол...*
*...Сцішыўся ў рыштаваннях*
*Касцёл,*
*Што касмічны воз*
*Перад пускам...*
*Па міжзорнай раллі разбрыліся*
*Мроі.*
*А Беларушчыны птах*
*Да руінаў не згубіць шлях.*

Радкі гэтыя пра Барыса Кіта належаць пяру народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## Валдзіс БІРКАЎС:

# «Галоўная мэта нашай знешняй палітыкі — хуткая інтэграцыя ў Еўрапейскі саюз і НАТО»



**Па запрашэнню міністэрства замежных спраў Латвіі гэту краіну наведала група журналістаў з Беларусі. У ходзе паездкі карэспандэнту «Звязды» была прадастаўлена магчымасць узяць эксклюзіўнае інтэрв'ю ў Валдзіса Біркаўса, першага віцэпрэм'ера і міністра замежных спраў Латвіі.**

**Валдзіс Біркаўс — даволі цікавая і каларытная фігура на палітычнай арэне Латвіі. Ён нарадзіўся ў Рызе ў 1942 г. Па адукацыі юрыст. Біркаўс — адзін з заснавальнікаў Латвійскага шляху — шматлікай і вельмі ўплывовай партыі. Ён неаднойчы выбіраўся дэпутатам парламента, быў намеснікам старшыні Сейма. Пэўны час (з ліпеня 1993 г. па верасень 1994 г.) узначальваў урад краіны.**

**З дэмакратычных каштоўнасцей свабоду асобы ставіць на першае месца. На сустрэчы з беларускімі журналістамі прызнаўся, што яму, як міністру, члену ўрада, даволі часта вельмі не падабаецца крытыка і абвінавачанні яго ў сродках масавай інфармацыі. Але ён, па яго словах, ніколі не дазволіць сабе павысіць голас на журналіста, ні на ёту ўшчыміць свабоду слова. Бо ў свабоднай прэсе ён бачыць сутнасць і гарантыю развіцця дэмакратычнага грамадства.**

**— У Беларусі кіраўнікі дзяржавы і ўрада любяць паўтараць, што наша знешняя палітыка — шматвектарная. Ёсць галоўны вектар на Усход, але і не менш важны і вектар на Захад і г.д. Калі прымяніць гэты тэрмін вектарнасці, то якой з'яўляецца знешняя палітыка Латвіі?**

— Наша палітыка, вядома, не аднавектарная, але яна абсалютна мэтанакіравана на інтэграцыю ў Еўрапейскі саюз і НАТО. У нашых адносінах з любой дзяржавай мы кіруемся знешняй палітыкай Еўрапейскага Саюза, тымі крытэрыямі, якія дазваляюць паскорыць інтэграцыю ў ЕС. Мы ўсё падпарадкоўваем гэтаму.

Невялікая ілюстрацыя. У першыя гады незалежнасці наш урад устанавіў з Тайванем адносіны. Але тады мы таксама мелі дыпламатычныя адносіны і з Кітаем. Праўда, пасольства ў Пекіне не было, кантакты амаль не развіваліся. Аднак, улічваючы пазіцыю Еўрапейскага саюза, мы падпарадкавалі сваю знешнюю палітыку патрабаванням ЕС і цяпер падтрымліваем дыпламатычныя адносіны толькі з Кітаем.

І сёння, перш чым прыняць любое рашэнне ўрада мы імкнёмся прадбачыць яго наступствы: будзе яно садзейнічаць інтэграцыі ў ЕС ці процідзейнічаць?

Дасягненню пастаўленай мэты, паўтаруся, мы фактычна падпарадкоўваем унутраную палітыку і ўсе ўнутраныя пераўтварэнні. І, як мне здаецца, за апошнія пяць гадоў мы істотна прасунуліся на гэтым шляху. Тым не менш, «хатняй» работы, якую мы павінны зрабіць, каб быць прынятымі ў гэтыя арганізацыі, яшчэ шмат. Многае яшчэ трэба змяніць у галовах людзей і заканадаўстве, бо патрабаванні ЕС вельмі жорсткія. Але яны і мабілізуюць нас.

**— Ці не перашкаджае падобная жорсткая прывязка да палітыкі Еўрапейскага саюза адстойваць нацыянальныя інтарэсы?**

— Наш нацыянальны інтарэс — гэта інтэграцыя ў Еўрапейскі саюз, дзе мы і будзем адстойваць свае інтарэсы. У час перагавораў, абмеркавання дагавораў з ЕС мы, зразумела, таксама адстойваем свае эканамічныя інтарэсы.

На мой погляд, нашы нацыянальныя інтарэсы і інтэграцыя ў Еўрапейскі саюз, калі і не ідэнтычныя паняцці, то вельмі блізкія. ЕС — гэта форма абароны нацыянальных інтарэсаў Латвіі.

Хачу заўважыць, што нацыянальны інтарэс не заўсёды лёгка вызначыць. Напрыклад, можа здацца, што ўзвядзенне бар'ераў на граніцах, з мэтай абароны вяскоўцаў і ёсць абарона нацыянальнага інтарэсу. Не. Гэта не абарона нацыянальнага інтарэсу. Інтарэс якраз у тым, каб вяскоўцы лепш жылі, а іх сельгаспрадукцыя была канкурэнтаздольнай у Еўропе, на рынку Расіі, які хутка мяняецца. А гэта дасягаецца не ўзвядзеннем бар'ераў на граніцах, а дагаворамі аб свабодным гандлі.

**— І калі Латвія мяркуе стаць членам Еўрапейскага саюза?**

— Што датычыць нашага паўнацэннага ўдзелу ў ЕС... У 1993 годзе, калі я разам з калегамі пісаў праграму партыі, шчыра кажучы, я тады не думаў, што ў 1994 годзе мы станем асацыіраванымі членамі Еўрапейскага саюза. Ведаеце, вельмі хутка развіваліся падзеі.

Уступленне ў ЕС — таксама складаны працэс. Я часам жартую, што Міністэрства замежных спраў ужо ў ЕС, засталося ўзяць толькі ўсю краіну з сабой.

Праз ЕС і НАТО, якія фактычна з'яўляюцца інструментамі знешняй палітыкі, мы зможам дасягнуць галоўнай палітычнай мэты — дабрабыту народа і бяспекі дзяржавы.

**— Пан міністр, ці здолее эканоміка Латвіі вытрымаць значныя фінансавыя нагрузкі, якія лягуць на бюджэт краіны пасля далучэння яе да НАТО? Прадстаўнікі гэтай арганізацыі не аднойчы заяўлялі, што ўступленне ў альянс не будзе бясплатнай прагулкай за кошт Амерыкі. Новым членам давядзецца ўзяць на сябе сур'ёзныя фінансавыя абавязкі. Вас гэта не насцярожвае?**

— Вы ведаеце, мы ўжо даўно заўважылі, што ў гэтым жыцці нічога бясплатнага не бывае. Гэтак мы думалі пры Савецкім Саюзе, калі верылі, што ёсць бясплатныя медыцына, адукацыя і г.д. І адначасова самі плацілі за іх.

Таму мы гатовы (гэта я неаднойчы заяўляў) узяць на сябе адказнасць і ўсе выдаткі па членству ў НАТО. Натуральна, гэта будзе паступовы працэс. За прывядзенне сваіх нацыянальных узброеных сіл у адпаведнасць з сучаснымі стандартамі мы абавязаны плаціць. І мы плацім, і будзем плаціць.

Дарэчы, у нас самы малы ваенны бюджэт у Еўропе. У абсалютных лічбах і ў прапорцыях. Мы не збіраемся ўзбройвацца да зубоў. Мы хочам свае невялікія структуры зрабіць сумяшчальнымі са структурамі НАТО, пасільна ўдзельнічаць ва ўсіх аперацыях НАТО па забеспячэнню і падтрыманню міру. І, вядома, нам яшчэ доўга ісці да гэтай мэты. Працэс развіваецца, але ён вельмі складаны. Таму давайце не будзем гаварыць аб нейкіх канкрэтных датах уступлення ў НАТО.

Наша арыентацыя бяспекі накіравана на стабільнасць. А яе стварэнне ў Еўропе залежыць не толькі ад НАТО, але і ў значнай ступені ад Расіі і ад усёй архітэктуры бяспекі. У многіх з нас яшчэ пануе ўяўленне аб НАТО як аб агрэсіўнай арганізацыі, якая толькі і чакае таго, каб на кагосьці напасці. Але праграма «Партнёрства дзеля міру» адкрыла дзверы ў гэту арганізацыю, дазволіла ўдзельнічаць у ёй. І мы ўдзельнічаем.

Трэба ўлічваць нашы гістарычныя перыпетыі. Сёння мы адчуваем сябе ў бяспецы больш, чым калі-небудзь. Але мы не маем ніякіх гарантый бяспекі. Зразумела, уступленне ў НАТО — гэта паступовы працэс, які залежыць ад трох складаемых. Першае, перамены ў самой НАТО. Другое, ідзе работа ў рамках праграмы «Партнёрства дзеля міру», і, трэцяе, вядзецца дыялог з Расіяй. Усё гэта разам можа прывесці да большай стабільнасці ў Еўропе. Бо патрабаванні НАТО — гэта дэмакратычныя патрабаванні. Сярод іх няма тых, якія б неслі ваенную пагрозу.

**— А як складваюцца адносіны з былымі рэспублікамі Савецкага Саюза ўвогуле і з Беларуссю — у прыватнасці?**

— Наша палітыка ў адносінах з краінамі СНД абсалютна дакладная: мы супрацоўнічаем на двухбаковым узроўні з усімі. З суседзямі — больш актыўна, з краінамі, што далей, таксама імкнёмся развіваць кантакты. Сёлета мы пачалі праяўляць больш цікавасці да закаўказскіх дзяржаў: Арменіі, Азербайджана, Грузіі.

Найбольш развітыя ў нас адносіны з трыма дзяржавамі: Украінай, Беларуссю і Узбекістанам. Украіна і Узбекістан праводзяць больш незалежную ў рамках СНД палітыку. У нас з імі супадаюць погляды на многія рэчы, выключна добра развіваюцца і палітычныя, і эканамічныя кантакты.

Што датычыць Беларусі. Вы — нашы суседзі. Мы настроены да вас вельмі добразычліва. У адносінах з вамі ў нас няма істотных праблем. Але пасля падпісання новых дагавораў з Расіяй уся наша работа, якую мы дагэтуль правялі, набыла нейкі расплывісты характар. Мы цяпер не разумеем, якія дагаворы паміж Беларуссю і Латвіяй у сіле. Як на іх паўплываюць заключаныя з Расіяй дагаворы?

Я гэтыя пытанні ставіў перад панам Сянько, які наведаў Латвію з афіцыйным візітам. Бо ў гэтым трэба разабрацца. Не ўсё зразумела. Эканамічныя адносіны з-за змены сітуацыі ў Беларусі набылі нейкую насцярожанасць, недакладнасць. Мы гатовы выконваць свае абавязкі па дагаворах з Беларуссю, развіваць супрацоўніцтва, весці дыялог. Але новая сітуацыя, прынамсі для мяне, да канца не зусім высветлена.

Мы хацелі б супрацоўнічаць з незалежнай, дэмакратычнай і эканамічна працвітаючай Беларуссю.

**— У міжнародных адносінах вялікую ролю адыгрываюць узаемныя візіты на дзяржаўным узроўні. Параўнаўча нядаўна Латвію з афіцыйным візітам наведаў Уладзімір Сянько — міністр замежных спраў Беларусі. Што змянілася, што ўжо зроблена пасля яго візіту?**

— Візіт, на мой погляд, быў карысным. Пасля прыезду пана Сянько фактычна сфарміравана камісія па дэлімітацыі граніцы, створана гандлёва-эканамічная камісія. На пачатак кастрычніка намечана сустрэча парламентарыяў дзвюх краін. Ідзе рэальны дыялог па транспарціроўцы нафты паводле кааперацыі ў гэтай сферы.

**— Да нас з рознай перыядычнасцю даходзяць інфармацыя, чуткі аб супярэчнасцях, разыходжаннях паміж Латвіяй, Літвой, Эстоніяй. 28 мая г.г. у Вільнюсе прэзідэнты прыбалтыйскіх дзяржаў прынялі дэкларацыю, у якой, у прыватнасці, гаворыцца аб недапушчальнасці спроб проціпастаўляць гэтыя краіны адна адной. Што гэта за спробы, якая іх рэальная пагроза адзінству дзяржаў Прыбалтыкі? І каму выгадна іх пасварыць?**

— Мы сёння імкнемся да больш глыбокай інтэграцыі. На гэтым шляху ўзнікаюць розныя праблемы. Скажам, днямі ў нашым парламенце дыскутавалі дагавор аб свабодным гандлі сельгаспрадуктамі. Былі выказванні, што, маўляў, Літва знаходзіцца больш на поўдні, чым мы, і субсідыі там вяскоўцы атрымліваюць, іх прадукты таннейшыя за нашы і г.д. Тым не менш, дэпутаты прагаласавалі за гэты дагавор аб свабодным рынку балтыйскіх краін.

Мы — суседзі. А з суседзямі звычайна складваюцца блізкія і добрыя адносіны, але, бывае, з суседзямі можна лёгка і пасварыцца. Спрэчкі з літоўцамі вакол марской граніцы мы спрабуем вырашыць спакойна, як у свой час спакойна і ўзважана вырашылі праблемы марской граніцы з Эстоніяй.

Трэба сказаць, што раней марской граніцы з Літвой не існавала. Былі толькі асобныя марскія лініі — працяг сухапутных граніц. І калі мы ў 1991 г. правялі за свае грошы даследаванні, то высветлілі тэарэтычную магчымасць нафты ў тым раёне, дзе прыкладна павінна праходзіць умоўная мяжа паміж дзяржавамі. Узніклі прыгранічныя спрэчкі. Але я ўпэўнены, што ў ходзе перагавораў яны паступова будуць зняты.

**— Беларусь праяўляе цікавасць да Савета дзяржаў Балтыйскага мора, бо наша краіна адносіцца да яго рэгіёна. Як Латвія ставіцца да пашырэння супрацоўніцтва з гэтай рэгіянальнай міжнароднай арганізацыяй? І, калі ласка, некалькі слоў пра яе, бо Савет у нас малавядомы.**

— Між іншым, да гэтай арганізацыі Украіна таксама мае цікавасць. Яе міністр пан Удавенка нават жартаўліва нас пераконваў у тым, што падземныя воды з Палтаўшчыны ўпадаюць у Балтыйскае мора. Я ведаю таксама, што палякі рэкамендуюць Беларусь у гэту арганізацыю.

Савет дзяржаў Балтыйскага мора — цудоўная арганізацыя. Сёлета гонар узначальваць яе выпаў мне. У Савет уваходзяць адзінаццаць дзяржаў. Прычым, акрамя пяці паўночных, трох балтыйскіх яшчэ і тры такія вядомыя і ўплывовыя краіны, як Польшча, Германія і Расія.

Прынцып кансенсусу — галоўны пры прыняцці ў арганізацыю. Усе павінны даць згоду на ўступленне новай краіны. У арганізацыі пакуль не прадугледжаны статус назіральніка. Апошняй у Савет прынялі Ісландыю, якая не з'яўляецца краінай Балтыйскага басейна. Вы можаце лабіраваць сваё ўступленне ў Савет, хаця кансенсусу дасягнуць будзе няпроста.

Арганізацыя займаецца ў першую чаргу ажыццяўленнем міжнародных эканамічных праектаў. У якасці прыярытэту, напрыклад, мы вылучылі развіццё ўсходняга ўзбярэжжа Балтыйскага мора і спалучэнне яго інфраструктур, уключаючы ўсе паўночна-заходнія раёны Расіі. Не менш важная сфера дзейнасці Савета — гуманітарная. Арганізацыя садзейнічае развіццю адукацыі, культуры, кантактам паміж людзьмі і г.д. Істотнае месца ў рабоце Савета займае абарона правоў чалавека.

**— Магчыма, хутка ў Страсбургу паўстане пытанне аб прыняцці Беларусі ў Савет Еўропы. Падтрымаеце нас?**

— Прывядзіце свой дом у парадак, як нам гаварылі ў свой час, каб не было ніякіх двайных стандартаў. Я думаю, у вас ёсць шанцы быць прынятымі. І, несумненна, вы павінны быць членамі Савета Еўропы. Мы, перш чым нас прынялі туды, прайшлі цяжкі шлях. Мы вельмі шмат працавалі, пакуль прывялі сваё заканадаўства ў адпаведнасць з патрабаваннямі Савета Еўропы.

Шлях у СЕ ёсць інструмент прывядзення ў парадак уласных спраў. І сёння я выключна ўдзячны СЕ за велізарную дапамогу Латвіі. Разумееце, нельга рэалізоўваць добрую знешнюю палітыку без адпаведнай унутранай палітыкі. Шматлікія канвенцыі Савета Еўропы трэба не толькі падпісваць, але і выконваць. Таму мы з вялікай надзеяй глядзім на Беларусь як на члена Савета Еўропы.

**Гутарыў Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

**ГАДАВЫ КОНКУРС СКЛАДАННЯ**

**Заданне № 17**

**Анатоль Сядлецкі** *(Мінск)*



**Белыя:** Kpg1, Фa8, Лg5, Cc3, Ch1, kd2, Ke1 (7).

**Чорныя:** Kpe3, Cb3, Cc7, Kc4, Kg8; пп: b7, d6, e2, f4 (9).

Мат за 3 хады.

**Заданне № 18**

**Анатоль Сядлецкі** *(Мінск)*



**Белыя:** Kpc1, Фe1, Лe8, Cd6, Ke3, Kf7; пп: b4, f3 (8).

**Чорныя:** Kpd4, Лh5, Ch2, Ch7, Kh3; пп: c2, c3, c6, d6, e5, h6 (11).

Мат за 3 хады.

**АБ ШАХМАТНАЙ ГУЛЬНІ**

Пазнаёмцеся з некаторымі выказваннямі першага рускага шахматнага майстра А. Д. Пятрова (1794—1867) аб шахматнай гульні.

«Смела можна сказаць, што ні адна гульня не патрабуе такой увагі, разумення і пільнасці, як гульня шахматная».

«Гульня шахматная вядомая ўсім народам. Гэта адзіная гульня, якая адпавядае ўсім характарам сапраўдных філосафаў, розумаў глыбакадумных, душ бескарыслівых. Кучы золата не маюць у ёй ніякай цаны. Даць мат ёсць адзіная мэта любога іграка».

«Ведаючы хады, нельга яшчэ лічыць сябе іграком. У гэтым выпадку шахматы маюць падабенства з паэзіяй. Ведаючы правілы паэзіі, нельга быць паэтам, не маючы здольнасцей».

«Якой бы ні была імклівай атака непрыяцельская, не трэба губляць прысутнасці духу, спакойна сустракаць небяспеку і старацца яе адхіліць...»

## ВІНШУЕМ!

*Галіне Мікалаеўне **ЖЫЛА** з Мінска. Любая мая сястрычка! Віншую цябе з днём нараджэння. Гэта ад усяго майго сэрца.* **Брат Віктар.**

*Ад усёй душы і сэрца віншуем дарагога сябра з г. Маладзечна **Пятра Аляксандравіча ДАВІДОВІЧА.*** **Яцыновіч Сяргей, Турко Алег.**

*Сардэчна віншуем з юбілеем **Ларысу ГІЛЕВІЧ і ўнука РОМАЧКУ.** Жадаем здароўя, шчасця і светлых дзён у жыцці.* **Свёкар, свякроў і залоўка Аксана** *з г. Ліды.*

# Улады, як і грошай, замнога не бывае?

Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка аб'явіў аб сваім намеры праігнараваць рашэнне Вярхоўнага Савета і правесці рэферэндум не 24 лістапада, як пастанавілі дэпутаты, а 7 лістапада — паводле сваіх ранейшых планаў.

Не даводзіцца сумнявацца, што кіраўнік дзяржавы стрымае сваё слова. І не толькі таму, што Вярхоўны Савет балюча закрануў яго самалюбства, не прыслухаўшыся да просьбы наконт даты плебісцыту. У парламенце нечакана знайшліся сілы, здольныя на роўных з Прэзідэнтам весці шматхадовую палітычную гульню і расстаўляць уласныя пасткі.

Да рашэння Вярхоўнага Савета правесці ўласны рэферэндум і сумясціць яго з прэзідэнцкім цяжка прыдрацца з пункту гледжання права. Парламент з'яўляецца самастойнай часткай палітычнай сістэмы ў дзяржаве і гэтак жа, як і Прэзідэнт, адказны за стабільнасць у краіне і павінен у сваёй дзейнасці абапірацца на думку народа. Адмаўляць яго права на ініцыіраванне рэферэндуму гэтак жа немагчыма, як і абвінавачваць у схільнасці да рэферэндумаў Прэзідэнта Лукашэнку: і адна, і другая галіны ўлады карыстаюцца сваім канстытуцыйным правам.

Аднак сумяшчэнне «парламенцкага» і «прэзідэнцкага» рэферэндумаў рэзка зніжае шанцы Аляксандра Лукашэнкі на перамогу. Радавы выбаршчык з «глыбінкі» і ў адным праекце Канстытуцыі разабрацца не здольны. А ўжо параўнаць два праекты ды выбраць з іх адзін для значнай часткі нашых суграмадзян — вышэйшая матэматыка. Таму вельмі высокая верагоднасць таго, што многія сумленныя выбаршчыкі (асабліва ў правінцыі) з лёгкім сэрцам прагаласуюць за абедзве Канстытуцыі — па-сялянску разважыўшы, што там, «наверсе», самі разбяруцца, што да чаго.

Да таго ж істотная частка выбаршчыкаў (асабліва сталага веку) проста заблытаецца ў праектах, прагаласаваўшы, як Бог на душу паложыць.

Найбольш верагодны вынік такога рэферэндуму — захаванне статус-кво: перамогі не даб'ецца ніводзін з бакоў, а таму Канстытуцыя 1994 года будзе па-ранейшаму дзейнічаць. На справе такі зыход стаў бы буйным паражэннем Аляксандра Лукашэнкі, паколькі і ў грамадстве, і ім самім магчымая перамога на гэтым рэферэндуме расцэньваецца як вынясенне народам чарговага вотуму даверу. Паколькі зусім відавочна, што людзі будуць выказваць адносіны не столькі да Канстытуцыі, колькі да яе аўтара. Імкнучыся не трапіць у гэтыя сеткі, расстаўленыя парламентам, Прэзідэнт і будзе настойваць на ўласным рэферэндуме і на даце 7 лістапада. Аднак з юрыдычнага пункту гледжання гэта далёка не беззаганны шлях. Прызначэнне даты рэферэндуму — выключная кампетэнцыя Вярхоўнага Савета. Пераглядаць ці адмяняць рашэнне парламента Прэзідэнт не мае законных падстаў.

Калі Аляксандр Лукашэнка наважыцца на такі крок, у Вярхоўнага Савета акажуцца развязанымі рукі, каб дзейнічаць паводле артыкула 104 Канстытуцыі — узбудзіць пытанне аб зняцці Прэзідэнта з пасады на падставе парушэння ім Канстытуцыі.

Зразумела, што такая працэдура ў сённяшніх умовах наўрад ці можа быць даведзена да канца. Хутчэй за ўсё, у гэтым выпадку Аляксандр Лукашэнка выдасць указ аб роспуску парламента. І тым самым трапіць у другую расстаўленую для яго пастку: права на роспуск Прэзідэнтам парламента Канстытуцыяй не прадугледжана. Рэферэндум 1995 года наконт гэтай праблемы меў кансультатыўны, а не абавязковы характар. Калі кіраўнік дзяржавы наважыцца на разгон Вярхоўнага Савета, адразу пасля гэтага разгону Беларусь пяройдзе для сусветнай супольнасці ў разрад дзяржаў з зусім пэўнай рэпутацыяй, якая наўрад ці дазволіць Беларусі ў бліжэйшай будучыні стаць членам Савета Еўропы.

Да таго ж ва ўмовах разгону парламента любы вынік прэзідэнцкага рэферэндуму наўрад ці будзе ўспрыняты светам як законны. І перамога Аляксандра Лукашэнкі ў гэтым выпадку рызыкуе аказацца піравай перамогай — яе асудзіць сусветная супольнасць, а Беларусь можа канчаткова апынуцца ў міжнароднай ізаляцыі. Прэзідэнт, верагодна, усведамляе рызыкоўнасць рэзкіх рухаў у такой сітуацыі. Ягоны намер яшчэ раз параіцца з парламентам — зусім натуральны і слушны. Адзінае выйсце з тупіковай сітуацыі — дзейнічаць у адпаведнасці з законам. Прычым датычыць гэта не толькі першых асоб, а і любога радавога грамадзяніна.

На жаль, не дужа шмат шанцаў на тое, што перамогуць у гэтай сітуацыі не амбіцыі і закранутае самалюбства, а цвярозы розум і гатоўнасць да кампрамісаў. Але шанцы такія застаюцца.

Самае цікавае, што і без рэферэндуму ясна: любы нармальны грамадзянін, якому неабыякавы лёс дзяржавы, хацеў бы бачыць моцнага Прэзідэнта і моцны парламент, якія б не ўзвышаліся адзін над адным і не дыктавалі свае ўмовы, а зладжана рабілі кожны сваю справу, не прэтэндуючы на надзвычайныя паўнамоцтвы і неабмежаваную ўладу.

**Валянцін ЖДАНКО.**




## ЭФЕКТ МАСЛААДБІВАЛЬНІКА

У «Жыгулях» з цягам часу (з прычыны зносу цыліндра поршневых кольцаў) праз сістэму вентыляцыі картэра ў карбюратар разам з газамі паступае шмат масла і водна-масленай эмульсіі. Гэта прыводзіць да забруджвання паветраных жыклёраў карбюратара, адмове пнеўматычнага клапана сістэмы халастога ходу, у які масла трапляе з упускнога калектара, а таксама да ўтварэння нагару ў камеры згарання і празмернага расходвання масла.




Каб устараніць гэтыя хібы, паспрабуйце перарабіць сістэму вентыляцыі наступным чынам. Паміж накрыўкай 1 (гл. малюнак) маслааддзяліцеля і прылівам 5 на блоку цыліндраў пастаўце зробленую з алюмінію дадатковую прыстаўку 3 і маслаадбівальнік 7 у форме паўсферы.

Дзякуючы павелічэнню аб'ёму маслааддзяліцеля і ўстаноўцы адбівальніка працэс ачысткі картэрных газаў палепшыцца, а ў корпусе паветранага фільтра стане суха.




**НА МАЛЮНКАХ**: 1 — накрыўка; 2 — шпілька; 3 — прыстаўка; 4 — паранітавая пракладка; 5 — прыліў на блоку цыліндраў; 6 - утулка; 7 — адбівальнік; 8 — утулка.

## ДЗЕСЯЦЬ ПРАВІЛАЎ АШЧАДНАЙ ЯЗДЫ

**Дарагоўля гаручага для аўтамабіля прымушае ашчаднага аўтаўладальніка эканоміць яго ўсімі даступнымі спосабамі. Таму, мы лічым, не будзе лішнім напомніць дзесяць асноўных правілаў эканомнай язды на аўтамабілі.**

1. Разагравайце рухавік свабоднай яздой, як мага раней выключайце пускавое прыстасаванне.
2. Не рухайцеся рэзкім рыўком з месца, гэта, дарэчы, шкодзіць і шынам.
3. Як мага раней перайдзіце на вышэйшую перадачу.
4. Газ павялічвайце «з пачуццём», старайцеся захоўваць плаўны характар язды.
5. Спыніўшыся на нейкі час (напрыклад, перад шлагбаўмам), выключайце рухавік.
6. Назірайце і ацэньвайце дарожную абстаноўку як мага далей наперадзе сябе, не злоўжывайце тормазам.
7. Сачыце за нармальным ціскам у шынах, своечасова падпампоўвайце іх.
8. Калі вы не карыстаецеся багажнікам на даху аўтамабіля, то здыміце яго.
9. Загадзя плануйце свой маршрут — самы кароткі не заўсёды можа аказацца самым эканомным.
10. Перыядычна кантралюйце расход гаручага, своечасова рабіце догляд за аўтамабілем і яго асобнымі вузламі і дэталямі.

* * *

Вядома, кожны аўтаўладальнік выкарыстоўвае і нейкія свае, асабістыя прыёмы ашчаднай язды. Спадзяёмся, яны падзеляцца гэтымі прыёмамі з іншымі вадзіцелямі праз чарговыя выпускі нашай «Лаўкі аўтааматара».

# «АА» — апошні шанц на жыццё

**У не такія далёкія часы на алкагалізм у нас глядзелі або з гумарам (успомніце, напрыклад, нашы любімыя фільмы «Пёс Барбос, ці Незвычайны крос», «Каўказская палонніца», «Афоня»), або з грэблівасцю, калі пра пітушчых людзей казалі не інакш як пра «ізгояў грамадства». Так працягвалася да 1987 года, калі ў Маскве з'явілася першая група «Ананімных алкаголікаў» («АА»). Пасля таго як цэнтр даў «дабро», групы «АА» пачалі з'яўляцца па ўсім СССР. На Беларусь таварыства прыйшло ў красавіку 1990 г. разам з прафесарам Каліфарнійскага універсітэта Лео Кайлі і членамі «АА» з Луцка і Вільні, якія дапамаглі арганізаваць і правесці першы збор мінскай групы «Надзея». Адбылося гэта 12 траўня 1990 г. Тады на збор з'явілася... 4 чалавекі. Але пасля таго, як у лістападзе 1991 г. у Мінску была праведзена першая канферэнцыя Заходняга рэгіёна «АА», колькасць мінскіх удзельнікаў «пачала расці. І ўжо зараз групы «АА» дзейнічаюць не толькі ў сталіцы краіны, але і ў Шклове, Віцебску, Барысаве.**

**Адна з груп «АА» арганізавалася пры наркалагічным кабінеце па вул. Лермантава, 38. Туды я і прыйшоў, каб пазнаёміцца з «АА» бліжэй.**

Напэўна, нельга з упэўненасцю правесці рысу паміж людзьмі-алкаголікамі і людзьмі, якія не хварэюць на алкагалізм. Такой дакладнай рысы проста не існуе. Гэта зразумее кожны, хто прыйдзе ў таварыства «Ананімныя алкаголікі».

Скажу шчыра, ішоў я на сустрэчу з нейкім... непрыемным пачуццём; усё ж адчуваўся ўплыў спрадвечных забабонаў пра п'яніц. А тут яшчэ людзі, якія адкрыта гавораць пра тое, што яны алкаголікі... Дый як не мецьтых забабонаў, калі кожны дзень сустракаеш п'янтосаў на іх заўсёдным месцы тусоўкі — ля любога гастранома. Добра яшчэ, калі яны не звернуць на цябе ўвагі, а калі раптам яны ўбачаць у табе патэнцыяльнага «спонсара» сваёй п'янкі і паведамяць табе пра гэта, абкружыўшы з усіх бакоў?

Таму нейкая насцярожанасць ў мяне была. Хутка яна змянілася здзіўленнем. Увайшоўшы ў пакой, у якім збіраецца група, на сценах я ўбачыў аркушы з надрукаванымі малітвамі. Здзіўленне ўзмацнілася, калі пачуў, што кожны прысутны пачынае сваё прывітанне са слоў: «Прывітанне! Мяне завуць (тут можна было называць сваё сапраўднае альбо несапраўднае імя, натуральна, без прозвішча). Я — алкаголік». Аднак хутка здзіўленне праходзіла, і ўспрымалася гэта зусім нармальна.

Дарэчы, калі чарга дайшла да мяне, то я прадставіўся як журналіст, які прыйшоў для таго, каб зрабіць рэпартаж. На гэта Валер (імя зменена) сказаў, што для прэсы, а таксама для сяброў і родных алкаголікаў існуюць спецыяльныя дні, якія, праўда, яшчэ не вызначаны. Таму пажаданасць ці непажаданасць маёй прысутнасці будзе вынесена на галасаванне. Члены групы, дзякуй Богу, прагаласавалі за тое, каб я заставаўся тут. Калі б галасаванне вынесла прысуд: «Нельга!», то мне прыйшлося б пакінуць пакой.

Наогул, кожная сустрэча людзей, якія ўваходзяць у таварыства, пачынаецца з малітвы і чытання «Дванаццаці крокаў», падобных да дзесяці запаведзяў. Таварыства пэўны ўпор робіць на зносіны з Богам — гэта адзін са шляхоў пераадолення цяжкай хваробы. Але і атэісты маюць права на лячэнне, таму вас ніхто не будзе прымушаць маліцца Богу. Як, у прынцыпе, вас ніхто не будзе прымушаць хадзіць сюды, слухаць тое, пра што тут гавораць, і г. д. Не, вы ў любы момант можаце пакінуць «АА», і ніхто не скажа ніякіх непрыемных слоў у ваш адрас, а тым больш вам у спіну. Аб гэтым гавораць кожнаму навічку адразу.

Кожны член «АА» павінен сказаць пра тое, чаму ён прыйшоў сюды (калі гэта навічок), або пра тое, якія поспехі або няўдачы адбыліся з вамі за той час, калі вас бачылі апошні раз (калі гэта сталы член таварыства). Ананімныя алкаголікі падтрымаюць вас у вашым імкненні да выздараўлення. Трохі дзіўна было назіраць за рэакцыяй прысутных на паведамленне аднаго з членаў «АА» аб тым, што ён не п'е ўжо 9 тыдняў: усе прысутныя заапладзіравалі. Але, глянуўшы на твар героя, я зразумеў, што гэтыя апладысменты для яго з'яўляюцца сапраўднай падтрымкай. Асабліва добра гэта разумееш пасля таго, як пачуеш «жыццёвыя гісторыі» ананімных алкаголікаў. Хачу адзначыць, што ніколі б не сказаў пра некага з прысутных «алкаголік», калі б сустрэў каго-небудзь з іх на вуліцы. Гэта зусім нармальныя людзі, якія ну ніяк не стасуюцца з тым партрэтам алкаголіка, які быў намаляваны на пачатку. Ды і што казаць, калі ў гэтых людзей вышэйшая адукацыя альбо нейкая навуковая ступень. Але ж менавіта гэта дапамагала ці дапамагае ім хаваць гэтую цяжкую хваробу — алкагалізм.

Як гэтыя людзі зрабіліся алкаголікамі? Хто як. Адзін пачаў піць яшчэ з юнацтва, другі — толькі на пятым курсе ВНУ, трэці наогул бачыў п'янкі з дзяцінства. Але аб'ядноўвае іх адно: ім здавалася, што яны ніякія не алкаголікі, што яны ў любы момант могуць спыніцца, што трэба толькі пажадаць і... Аднак жадання «і...» чамусьці не з'яўлялася, і яны каціліся ў бездань. Адны з іх прапівалі працу, другія — пашану ў людзей, трэція — сем'і, чацвёртыя — волю. Іх жыцці былі разбітыя, бо, здавалася, ніхто і нішто не зможа ім дапамагчы. Яны клаліся ў бальніцы, дзе іх не лячылі, а, наадварот, дазвалялі піць, яны кадзіраваліся, але хутка зрываліся: хто з-за немагчымасці не піць, хто з-за немагчымасці быць зомбі.

Невядома, дзе і як скончылася б жыццё гэтых людзей, калі б яны — хто выпадкова, а хто праз знаёмых — не даведаліся пра існаванне таварыства «Ананімныя алкаголікі». Яны хадзілі на сустрэчы, ім спадабалася і яны засталіся тут. Зараз яны разумеюць, што яны могуць не быць хворымі на алкагалізм. У многіх з тых членаў «АА», хто ў «тым» жыцці забыўся на сваю сям'ю, з'явілася пачуццё адказнасці за сваіх родных. Дарэчы, для непітушчых родных і сяброў алкаголікаў, якія жадаюць ім дапамагчы, створаны спецыяльныя групы «АлАнон».

А другой сям'ёй для ананімных алкаголікаў стала само таварыства «АА». Пасля афіцыйнай часткі алкаголікі п'юць... не, не гарэлку, а гарбату. Чым, дарэчы, даказваюць, што «добра пасядзець можна не за бутэлькай, а за самаварам». Яны п'юць гарбату, размаўляюць пра жыццё. Ім добра і без «зялёнага змея». Пры мне адбыўся цікавы выпадак: на стале ляжалі пернікі і адна жанчына, член «АА», узяла некалькі. Калі прыйшоў арганізатар чаявання, яна сказала: «Я тут сцягнула некалькі пернікаў для малой», — на што той адказаў: «Ты не сцягнула, ты ўзяла пернікі для малой. І правільна зрабіла — хай і дзіця паласуецца. І наогул, дзеці тых, хто ў «АА», заўсёды пад нашай апекай». Гэтага арганізатара ўмоўна назавём Алесь. Ён «доўгажыхар» таварыства «АА» і адзін з заснавальнікаў гэтага аддзялення. Ён расказаў пра тое, як яны атрымалі гэтае памяшканне: калі яны прыйшлі ў наркалагічны кабінет з тым, каб прасіць пакой, ім яго далі, але сказалі, што няма мэблі, на што Алесь адказаў: «Вы, галоўнае, дайце пакой, а сядзець алкаголікі могуць і на падлозе». Адносіны з гаспадарамі пакоя ў «АА» добрыя, ды і самі ўрачы бачаць, што гэтае таварыства дае плён — лечыць алкаголікаў, а таму ўрачы давяраюць «АА» ва ўсім: нават ключы ад усяго кабінета даюць, каб тыя яго зачынілі на ноч.

Алесь поўнасцю прызнаў праграму «АА» і таму ўпэўнены, што Бог яму дапамагае жыць. І ён ведае і гаворыць аб тым, што «таварыства «АА» — у ва мне, я — у таварыстве «АА» — гэта мой стыль». Расказалі мне члены групы і пра планы на будучыню. Так, ананімныя алкаголікі трымаюць сувязь з «зэкамі» і разгортваюць дзейнасць таварыства «на зоне», бо па статыстыцы большая частка злачынстваў учыняецца ў стане алкагольнага ап'янення. Гэта выдатна ведаюць і самі «зэкі», таму ў іх і з'явілася жаданне раз і назаўсёды пакончыць з гэтай заразай. Другі праект — гэта праца з моладдзю. Будучыня за апошняй, а якой расце гэтая «будучыня» — цвярозая ці вечна п'яная — да гэтага, здаецца, ёсць справа толькі «АА».

Так і жывуць «АА», і ў прыватнасці група «Аметыст», якая збіраецца па вул. Лермантава, 38 у Мінску. Выдаюць «АА» і інфармацыйны бюлетэнь «Першы крок». Адзін з лістоў у гэтым бюлетэні заканчваецца фразай алкагалічкі Надзеі: «Я люблю жыццё і люблю вас, людзі». І мы павінны палюбіць і зразумець іх, алкаголікаў, бо жыццё такое няпэўнае. Кожны з нас у любы момант можа пераступіць гэтую рысу...

**Сяргей САХАРАЎ.**

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 11 верасня

### Беларускае тэлебачанне

**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей.
**15.40** «Царэўна-жаба». Мультфільм.
**16.10** «Усе пад Богам ходзім». Дак. фільм.
**17.00** Крэда. Эканамічныя праблемы заказніка «Нацыянальны парк «Браслаўскія азёры».
**17.20** Госці ў хату. «Як там, у Афрыцы?»
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Канцэртны сезон. «Фіеста гітарыстаў».
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Дзяжурная аптэка». 8-я серыя.
**20.05** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**20.10** Супергол.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Аўта-парк.
**22.10** «У руках правасуддзя». Маст. фільм (ЗША). 1-я серыя.
**23.05** Каралеўскае паляванне.
**23.45** Мотаспорт. Супербайк. Чэмпіянат свету-96.
**0.15** Навіны.

### ГРТ

**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца».
**14.45** Кактус і К.
**14.55** До-мі-соль.
**15.10** Кліч джунгляў.
**15.40** «Элен і хлопцы».
**16.05** Тэт-а-тэт.
**16.30** «Вакол свету».
**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** У пошуках страчанага».
**19.45** Добрай ночы, малышы.
**20.00** Час.
**20.40** Фільм Гары Бардзіна «Кот у ботах».
**21.05** Кубак свету «Майстар-ралі-96». Парыж—Масква—Байканур—Улан-Батар.
**21.20** Футбол. «Ювентус» (Італія) — «Манчэсцер Юнайтэд (Англія).
**23.20** Навіны.

### Расія

**10.00, 16.00, 19.00, 23.00** Весткі.
**16.20** «Хто на што здатны». Конкурсная праграма.
**16.30** «Чэленджэрс». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Залежыць ад цябе.
**17.15** Тэлечасопіс «Здароўе».
**17.25** А. Пугачова ў праграме «Астралогія кахання».
**17.55** Клуб губернатараў.
**18.25** Лідэр-прагноз.
**19.30** «Санта-Барбара».
**20.30** Хакей. Кубак свету. Фінал.
**22.25** Надвор'е.
**22.30** Тэлескоп.
**23.20** Тавары — поштай.
**23.30** «Кінашоп-96». Дзённік фестывалю.
**23.40—0.30** «Не спі і глядзі». Начная музычна-забаўляльная праграма.

### Санкт-Пецярбург

**11.55, 13.55, 15.55, 18.55, 22.15, 23.55** Інфарм ТБ.
**13.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**14.10** «Жыццё Кліма Самгіна». 6-я серыя.
**15.15** «Марыінскі» ў Японіі.
**16.10** Асабістая справа.
**16.35** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў.
**17.00** Стыль жыцця.
**17.05** «Солці». Серыял для дзяцей.
**17.35** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.10** Толькі без панікі.
**20.55** Спартыўны агляд.
**21.05** «Жыццё Кліма Самгіна». 6-я серыя.
**22.30—23.55** Дэтэктыў. «Пятроўка, 38».

### НТБ

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё».
**17.30** Жаночыя гісторыі «Місіс Роз Уайт» (ЗША). 2-я серыя.
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Футбол. «Спартак» (Масква) — «Сількеборг» (Данія).
**21.35** Фестываль міні-серыялаў. «Млыны багоў». 3-я серыя.
**22.30** Часінка.
**23.20** Такое спартыўнае жыццё.
**23.50** Кафэ «Абломаў».

Калектыў Нацыянальнага цэнтра стратэгічных ініцыятыў «Усход—Захад» выказвае глыбокае спачуванне свайму прэзідэнту Анатолю Майсеню ў сувязі з напаткаўшым яго горам, смерцю бацькі — МАЙСЕНІ Іосіфа Фёдаравіча.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.
Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27; пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.
Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.
Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 6046.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12